

Алесь Белакоз



# самарослая методыка



# Белакоз Алесь Мікалаевіч
# Самарослая методыка

*У гэтым невялічкім тэксце чытач знойдзе думкі*
*аб настаўніцкай прафесіі аднаго з найбольш яркіх*
*вясковых настаўнікаў нашай краіны, чалавека,*
*які паклаў жыццё на тое, каб вярнуць*
*у шырокі ўжытак родную мову*
*і дасягнуў у гэтым немалых поспехаў.*
*Творча-працоўная біяграфія спадара Белакоза –*
*выразны прыклад таго, якіх людзей чакае*
*наша бядотная краіна, бо толькі такім служэннем*
*яна можна адрадзіцца і заззяць зіхоткім*
*дыяментам у кароне выдатных народаў*
*свету, чаго яна вельмі заслугоўвае.*

*Рэдактар Міхась Булавацкі*

**Магілёў 2011**

## Самарослая методыка

Мяне вучылі і я вучыў, што апытванне на ўроку нельга зацягваць, бо мала часу застанецца на тлумачэнне новага матэрыялу. Аднак праверка якасці выканання хатняга задання абавязковая. А як яе правесці за 5-10 хвілін? На гэтае пытанне адказу я не знаходзіў.

Спрабаваў праводзіць ушчыльненае апытванне, апытванне некалькіх вучняў па картках, але ўсе гэтыя прыёмы часу не эканомілі, а, здаралася, апытванне зацягвалі, падаўжалі. Тады прыйшла выснова, што трэба дзетак вучыць скарочанаму напісанню адказаў на пытанні, якія неабходна ставіць так, каб вучань за 5-8 секунд даў поўны пісьмовы адказ. Але ж да гэтага трэба рыхтаваць дзетак. А як гэта зрабіць?

Хто шукае, той знаходзіць. Нешта знайшлося і тут. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ўрок выглядаў прыкладна так.

Заходжу ў клас і з парога даю заданне (з дзецьмі мы ўжо бачыліся): “Запішыце ўсе глухія зычныя”. На папярэднім уроку праходзілі правапіс прыставак. Картачкі (восьмая частка ліста са сшытка) у кожнага вучня на парце. Прозвішча падпісана. Вучні запісваюць: *птш, сфх, кчц.* Так вучні дзеляць дзевяць глухіх зычных – на тры групы па тры літары, каб лягчэй запомніць іх. Тры першыя пішуцца “палачкамі”, літары другой групы – паўкружочкамі, у слове “*качцы*” ўсе астатнія глухія зычныя. Ёсць і іншыя спосабы запамінання глухіх зычных, але я выбраў такі. Некалькі секунд – і адказ гатовы. Другое заданне: “Запішыце ўсе прыстаўкі, якія канчаюцца на з” – “*з, уз, раз, без, цераз, праз*”. І гэта займае дзесяць-пятнаццаць секунд.

Новае заданне: “Запішыце тыя прыстаўкі, якія ніколі не мяняюць свайго апошняга зычнага”. Вучні пішуць: “*Аб-, ад-, над-, пад-, прад-, перад-*“. На гэта яшчэ 15 сек. “Прыдумайце слова, у якім прыстаўка перад глухім зычным мяняе апошні гук”. “*Расклад*”. Цяпер пытанні па паўтарэнні: “Якія лічэбнікі захоўваюць ***е*** нават у першым складзе перад націскам?” Адказ: “*дзевяты, дзесяты, семнаццаты, васемнаццаты*”. “Разбіце на склады, пастаўце націск і пранумаруйце склады ў словах “цецярук, зямля”. На 6 заданняў страчана дзве-тры хвіліны ўрока. (Зараз па новых правілах пішацца *дзявяты, дзясяты, сямнаццаты, васямнаццаты. – Заўвага рэдактара.)*

Ад 1967 да 1984 года я быў у страшэннай апале за тое, што ствараў літаратурна-краязнаўчы музей, які ўлады загадвалі разбурыць. Пазней, ужо па развале СССР, неяк давялося ехаць у адным купэ з былой інспектаркай РАНА А.Сасноўскай. І я запытаўся ў яе, чаму яна так варожа ставілася да мяне, нават фальсіфікацыі дапускала. Тая пачала апраўдвацца:

– Я ведала, што вы лепшы настаўнік у Мастоўскім раёне, а можа і ў вобласці, але калі ехала правяраць вашу працу, то мне загадвалі шукаць толькі дрэннае. Дрэннага я знайсці не магла, дык чаплялася да добрага: вас лаялі за тое, што ў 1969 годзе вы за свае ўласныя грошы заказалі ў мастака Станіслава Быка скульптурны партрэт Міхася Явара. Тады за тое, што гэты партрэт вы змясцілі ў сваім музеі, пакаралі не толькі вас, але і дырэктара, і яго намеснікаў. Вас я абвінавачвала, што вучні перапісваюцца з пісьменнікамі, а гэта не па праграме. Хоць гэтым займаліся вучні ў пазаўрочны час, аднак і за гэта вас каралі, мы вас каралі і за тое, што вучні пісалі вершы, нарысы, апавяданні, драматычныя творы, збіралі фальклор, мясцовую тапаніміку, мікратапаніміку, дыялектызмы, і за тое, што выдавалі “Праменьчык”, абвінавачвалі за тое, што ў школе арганізавалі нелегальную друкарню, аб’явілі на савеце РАНА па вашай працы суровую вымову з апошнім папярэджаннем за тое, што вы тэму “Жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны” вывучалі на чатырох уроках, а па праграме трэба было на адным, дзе, акрамя тэмы “Ф. Скарына”, разгледзець яшчэ дзве тэмы. Вы тлумачылі, што вывучалі дзейнасць Ф. Скарыны на адным уроку, а на другім рыхтаваліся да сачынення “Францішак Скарына – патрыёт, першадрукар, асветнік”, гэты час вы бралі з гадзін на развіццё мовы, за кошт якіх і пісалася сачыненне. Усё гэта мы разумелі, але нам загадалі вас знішчыць, і мы выконвалі загад. Мы ведалі, што вы праводзілі значна больш урокаў, як належала па сетцы гадзін, вы бралі ўрокі ўсіх настаўнікаў, якія па той ці іншай прычыне адсутнічалі, вы нават у настаўнікаў куплялі ўрокі. Вас бы за гэта ўзнагароджваць, а мы сурова каралі, бо быў такі час, так трэба было. Вашы рабочыя планы былі лепшыя ў рэспубліцы: у капэртах, прыклееных да машынапісных аркушаў,

былі фатаграфіі па тэме, рэпрадукцыі карцін, выразкі з газет, надрукаваныя на пішучай машынцы апошнія звесткі з радыё- і тэлеперадач, з мастацкай літаратуры, з дакументальных крыніц, мы тады запісалі, што вы на ўрокі ходзіце без рабочых планаў і працуеце "не па савецкіх праграмах". Тады загадчык Мастоўскага РАНА Рында Мікалай Іванавіч зрабіў смяротэльную для вас выснову: "Не піша рабочых планаў, працуе не па савецкіх праграмах". Вядома, каб пратрымалася яшчэ тая палітыка забойства ўсяго нацыянальнага, вас бы вызвалілі з працы. *(Ад рэдактара: "Так трэба было" – савецкія інспектары былі выдрэсіраванымі на падобных фразах. Салдаты савецкага фронта! Загадаюць стаць воўкам, – стануць! І будуць нішчыць тое, што ў парэштках іх свядомасці выклікае захапленне. Будуць нішчыць, бо "так трэба" іх начальніку, "яму відней, бо ён вышэй". Сасноўскай хаця б захацелася пакаяцца? А шмат хто з такіх дагэтуль жывуць з упэўненасцю ў правільнасці сваіх паводзін.)*

Таму я са сваімі методыкамі не высоўваўся, а мяняў падыходы да апытвання, тлумачэння, замацавання і хатняга задання. Рабіў патаемна, хаваючыся ад начальства, бо там ведалі: усё, што робіць Белакоз, шкодна.

Але вернемся да ходу ўрока. Вучні адказалі на апошняе пытанне. Вучні з апошніх парт збіраюць карткі – кожны свайго рада. Гэта займае некалькі секунд. Усё апытванне заняло тры-чатыры хвіліны. Вядома, перад тым, як пачаць такое апытванне, трэба прывучыць дзетак даваць сціслыя адказы і запісваць іх скарочана: разумны разумнага разумее. Тэма "Скарочанае напісанне слоў" праходзілася ў пятым класе. Не маглі мы чакаць да пятага класа. Вывучалі гэтую тэму ў пачатку верасня ў 4-ым. Тыдняў тры вучням памылкі ў скарачэннях не ўлічваў, толькі папраўляў і выносіў на палі, каб дзеткі мелі магчымасць рабіць працу над памылкамі, а вось праз нейкі месяц ўжо гэтыя памылкі ўлічваў, але лічыў іх нягрубымі.

Урэшце сабраныя карткі ляжаць на стале настаўніка, а я пачынаю тлумачыць новую тэму. Вучні слухаюць вельмі ўважліва. Яны ведаюць, што зараз трэба будзе адказваць вусна, а пасля пісьмова, а таксама на наступным уроку. Стаўлю пытанне па новай тэме. Падымаюць рукі не ўсе вучні. Выклікаю аднаго, а астатніх папярэджваю, што зараз жа гэтае пытанне будзе пастаўлена зноў. Вучань адказаў. Зноў паўтараю гэтае пытанне. Рукі падымаюць усе, акрамя Максіма. Хтосьці са слабейшых вучняў адказвае. Пытанні паўтараю трэці раз. Падымае руку і Максімка. Адказвае. Паўтараю пытанне чацвёрты раз. Вучні скарочана, у хатніх сшытках запісваюць адказ на пытанне. Хтосьці са слабейшых чытае запісаны адказ. Пераходзім да другога пытання. Зноў стаўлю пытанне раз, другі, трэці, а як трэба, то і чацвёрты. Запісваем адказ у сшытак. Так прапрацоўваем увесь параграф. Паўтарэнне аднаго і таго ж правіла яшчэ нікому не нашкодзіла, а траціцца на гэта секунды часу.

Пераканаўшыся, што дзеці правілы ведаюць, даю самастойнае заданне (практыкаванне з падручніка). Дзеці працуюць, а я хуценька выстаўляю адзнакі за карткі. Вучні працягваюць працаваць, а я чытаю кожнаму адзнакі за карткі. Дзеці працуюць, а я аб'яўляю адзнакі за хатняе заданне (адзнака са сшытка) і за карткі. Чытаю прозвішча.

– Ахрэмчык – 5/5, Багдан – 5/5, Дзямбіцкі – 5/5, Леська – 5/4…

– Чацвёркі, калі ласка, не стаўце, – просіць Леська.

– Ягнешка – 4/5… І зноў просьба: "Чацвёркі не стаўце". Гэта значыць, што вучань яшчэ раз выканае пісьмовае хатняе заданне і, калі атрымае 5, то я пастаўлю ў класны журнал пяцёрку. Спачатку па сістэме В.Шаталава (я з ім перапісваўся) ставіў вучням, якія не былі згодны з першай адзнакай, апошнюю. Тады ўсе не згаджаліся, прасілі дазволу пераздаць яшчэ раз, але не вучылі. Потым аб'явіў такое: пры выстаўленні адзнакі ўлічваю першую, другую і трэцюю. Вучань атрымаў першы раз чатыры, другі – пяць, заўсёды акругляю на карысць вучня, тут стаўлю ў журнал 5.

На ўроку, калі заношу ў журнал адзнакі, выстаўляю іх і ў дзённікі. Клас выконвае практыкаванне на замацаванне новай тэмы, а вучні з першай парты нясуць да стала настаўніка дзённікі, гэтым выстаўляю, падходзяць вучні з наступнай парты. Калі выстаўляю ўсім вучням адзнакі ў журнал і ў дзённікі, то правяраем самастойную работу, запісваем хатняе заданне. Калі застаецца хвіліна-дзве часу, вучні маюць права выконваць хатняе заданне, якое звычайна займае менш за паўстаронкі.

Лічу памылковым імкненне некаторых настаўнікаў загрузіць вучня бескарыснай працай. Часам задаюць перапісаць 18 ці 20 сказаў. Я найчасцей задаваў 1-2 сказы з практыкавання. Але ў першым сказе вучні павінны растлумачыць усе граматычныя і сінтаксічныя арфаграмы. Напрыклад, слова ***ад'язджае*** вучань тлумачыць так: над ***а*** ставіць націск і закрэслівае яго. Гэтым ён паведамляе настаўніку, што тут ***а*** не пад націскам, таму пішацца ***а***, а не ***о***, Далей такія пяць літар: "***ад – з дз***". Тут вучань растлумачыў, што ***ад*** пішацца разам, бо прыназоўнікі з дзеясловамі не ўжываюцца. Наступны запіс: "***ад - нязм. прыст.***" Гэтыя скарачэнні абазначаюць: ***ад*** – нязменная прыстаўка, а таму ***д*** ніколі не пераходзіць у ***т***. Чаму пасля апострафа ***я***, а не ***е***, – вучань не тлумачыць, бо ён над другім ***а*** паставіць націск, а над ***я*** адзінку, г. зн. тут ***е*** перайшло ў ***я***, бо яно ў першым складзе перад націскам. "***з – язда***" – тлумачэнне для літары ***з***. "***дж, бо д → дз, дж***". Тут вучань паказвае, чаму ***дж***, а не ***ж***, бо ***д*** можа чаргавацца толькі з ***дз*** і ***дж***. "***а – пасля зацв.***" Такое тлумачэнне я разумею так: пасля зацвярдзелых зычных ётавыя галосныя не ўжываюцца. "***канч.дз. е***" – тут вучань паведамляе пра канчатак дзеяслова. Тое, што дзеясловы ні ў якой форме не маюць канчатка ***я***, істотна для нашай мясцовасці, бо тут дыялектны канчатак ***я*** ўжываецца досыць актыўна: купляя, махая...

Канчаткова праца вучня выглядае так:

| |
|---|
| *а́д'я[1]зджа́е* (над першым *а* націск закрэслены) |
| *ад – з дз, ад – нязм.прыст., з – язда* |
| *дж, бо д → дз, дж, а – пасля зацв., канч.дз. е* |

Такое тлумачэнне кожнай арфаграмы займае два-тры радкі ў першым, а часта і адзіным для задання сказе. Вучні абавязаны падкрэсліць адпаведнымі рыскамі дзейнік, выказнік, азначэнне, дапаўненне, акалічнасць. Над кожным словам надпісаць, калі гэта назоўнік – ***н***., прыметнік – ***пр***., дзеяслоў – ***дз***., лічэбнік – ***л***., займеннік – ***з***., прыслоўе – ***прысл***., прыназоўнік – ***прыназ***., часціца – ***ч***., выклічнік – ***в***.

Прашу ў вучняў 4-га класа не вызначаць тых часцін, якіх мы не вывучалі. Але ж гэта дзеці! Яны дапытлівыя. Часта сыплюцца пытанні, якая часціна мовы ***ой***, ***на***, ***і***, ***весела***, ***сем***. Даводзіцца тлумачыць. Што гэта дае? Успамінаецца такі выпадак.

Выкладчыцу беларускай мовы, якая працавала ў шостым класе, паслалі на курсы. Мне прапанавалі замяняць яе ўрокі. Яна мне кажа:

– Мы скончылі вывучаць прыслоўе, а наступны ўрок абагульняючы. Вядзіце, як хочаце.

Зайшоў я ў клас, выклікаў да дошкі вучня.

– Пішы: "Весела пераліваліся праменьчыкі сонца ў буйнай кроплі расы".

І да вучняў:

– Падкрэсліце адпаведнымі рыскамі члены сказа.

Сяк-так падкрэслілі, хоць даводзілася падказваць. На слове ***весела*** забуксавалі і ні з месца. Не ведаюць, якая гэта часціна мовы. Кажу:

– Там, на калідоры, чацверакласнікі, у іх будзе рэпетыцыя. Падыдзі, Кажэцкі, запрасі кагосьці з іх у клас, няхай дапаможа.

Кажэцкі прывёў Максіма, самага слабога вучня. Захваляваўся я, але надзеі не трачу.

– Скажы, Максімка, шостаму класу, якая часціна мовы ***весела***, бо мы не можам вызначыць.

– Гэта ж прыслоўе! – горда абвёўшы позіркам клас, заявіў Максім. Ён прыслоўе пачне вывучаць толькі ў шостым класе, а сёння ўжо пазнае і дзеепрыметнікі. А да гэтага метаду не кожны дзесяцікласнік адказаў бы на такое пытанне.

Акрамя тлумачэння, у кожным заданні ёсць разбор. Праходзім назоўнік – разабраць першы назоўнік. Вывучаем дзеяслоў – разбіраем яго, фанетыку – фанетычны разбор, сінтаксіс – сінтаксічны. Такое кароткае заданне, якое выконваецца вучнем за некалькі хвілін, прымушае яго паўтарыць дзесяткі правілаў. А паўтарэнне – гарантыя трывалых ведаў, тым больш, што такая праца адбываецца кожны дзень, у кожным класе. Некалькі першых месяцаў некаторым дзеткам цяжкавата, але паступова нават самыя слабыя пачынаюць выдатна разбірацца ў граматычных пушчах.

Я прасіў дзетак, каб на ўрокі беларускай мовы моцныя вучні сядалі са слабымі, у слабых прасіў, каб яны па кожнай незразумелай драбніцы звярталіся да суседа, каб, выконваючы практыкаванні ці тлумачэнне або разбор, раіліся з мацнейшым вучнем, каб перад пачаткам урока сусед праверыў падрыхтоўку задання свайго падшэфнага: гэта дае гарантыі падапечнаму вучню атрымліваць толькі станоўчыя адзнакі. Пасля ўрокаў збіраю моцных вучняў і тлумачу ім, што ад дапамогі суседу найбольш выйграюць яны: адна справа вывучыць матэрыял самому, а другая – данесці яго слабому вучню. Калі ён зразумее, то ты, ягоны “настаўнік”, запомніш правіла навечна. Кожны раз, калі ты падрыхтуеш суседа да самастойнага тлумачэння, то і сам яшчэ раз паўторыш правілы. Нават можаш дазволіць слабому вучню спісаць тое ці іншае каменціраванне, але растлумач яму, што абазначаюць твае скарачэнні, як гучыць правіла ў поўным варыянце. Толькі перад тым, як звярнуцца па дапамогу да суседа, слабы вучань абавязаны запісаць усе каментарыі, якія ён сам можа выканаць. Раз спіша, другі, трэці, дзесяты, а нарэшце зразумее і ўсё тлумачэнне будзе выконваць самастойна: ён пераканаецца, што нельга бясконца спісваць, трэба самому разбірацца.

Пасля наступнага ўрока збіраю слабых вучняў і прашу ў іх, каб не крыўдавалі, што суседзі ўзялі на сябе некаторыя абавязкі настаўніка: у іх лепшыя ўмовы ў хаце, яны, магчыма, стараннейшыя, можа ў вас здольнасці да рамонту машын, да малявання,можа замнога часу прысвячаеце спартыўным трэніроўкам, больш дапамагаеце бацькам, але, калі будзеце супрацоўнічаць з суседзямі, то з часам і вы станеце выдатнікамі.

Дапамога суседа, веданне, на якія пытанні давядзецца адказваць на наступным уроку, упэўненасць, што адказваць давядзецца абавязкова – усё гэта спрычыняецца да таго, што нават самыя слабыя вучні часта пачынаюць атрымліваць пяцёркі (тады была пяцібальная сістэма).

Аднойчы зайшоў на перапынку ў прыбіральню і чую, што за перагародкай нехта штосьці шэпча. Глянуў: там двоечнік, які рабіў выгляд, што ганарыцца двойкамі, вучыць беларускую мову, павярнуўшыся ў кут. Ён мяне не бачыў. На ўроку на пытанні па картках ён адказаў на чацвёрку з плюсам, а я яму паставіў пяцёрку. З якім гонарам ён глядзеў на клас, калі яму ў дзённік і ў журнал ставіў пяцёркі. Каб бачыць такое, каб пацешыцца з хлопчыкавага шчасця, варта жыць, варта горы перавярнуць.

Адна настаўніца казала:

– Яны спісваюць, а вы цешыцеся, што вельмі добра ведаюць.

Вучні ў мяне на кантрольных ды, асабліва, на картках не спісвалі па некалькіх прычынах.

Дзеці думалі, што я праз сцены бачу: вучань на апошняй парце схаваўся за таго, хто сядзеў перад ім, і нешта шэпча суседу. Я яго зусім не бачу і не чую ягонага шэпту, але выстае ягонае вуха, і яно варушыцца, значыць, ён шэпча. Я звычайна на ўроках не рабіў заўваг, а толькі гляну на таго, хто парушае дысцыпліну. Гэтага дастаткова. Бывае, што вучань паўторыць нейкі свой манеўр. Тады я зноў без натацыяў кажу:

– Шульга, ўстань.

Хлопчык ведае, чаму яму трэба ўстаць. Праз некалькі хвілін, пажадана, каб не кожны ў класе заўважыў, паказваю яму рукой, каб сеў.

А з тым вухам было так: назаўтра Міша пытаецца:

– Вы кажаце, што дрэнна чуеце. Я шаптаў толькі губамі, як вы здагадаліся, што я шапчу?

– Міша, гэта сакрэт фірмы, які я не магу раскрыць.

І ўсё ж вучні, магчыма, спісвалі і ў мяне, аднак у час адказаў на картках яны не маглі спісваць і па такой прычыне. Дзеткі пісалі скарочана, таму адказ на адно пытанне займаў 5-10 секунд. Дапусцім, што вучань падрыхтаваў шпаргалку, на якой адказы на 10-15 пытанняў (новы матэрыял і паўтарэнне). Вучні адказваюць па картках на 6-8 пытанняў. Яны не ведаюць, якія менавіта пытанні я прапушчу, у якой паслядоўнасці буду іх ставіць. Каб знайсці адказ на патрэбнае пытанне, вучань павінен у шпаргалцы капацца секунд 15-20, а за гэты час дзеці адказваюць на наступнае пытанне. Той, хто будзе шпаргаліць, атрымае не больш за двойку.

І яшчэ. На ўроках у мяне вучні адчуваюць сябе вельмі свабодна:

– Трэба табе пазычыць у суседа ці нават у вучня з іншай парты аловак, не пытайся ў мяне дазволу. Ціхенька ўстань, вазьмі ў сябра аловак і зноў ціхенька сядзь на месца.

Тады пісалі аўтаручкамі. Скончылася чарніла, ідзі да акна (там стаяла бутэлечка з чарнілам), набяры чарніла і сядай. Упала ручка – лезь пад парту і падымі: я бачу, калі ты суседку за касу пацягнуў, а калі лінейку ёй падаў. Лінейку падаваць трэба без дазволу настаўніка, а за касу пацягнуць – пытайся.

Быў такі жартаўнік Міколка Дзямбіцкі. Я тлумачу, а ён цягне руку.

– Што хочаш, Міколка?

– Ці можна Аксану за касу пацягнуць?

– З такімі пытаннямі звяртайся да Аксаны, калі яна табе дазволіць, то асцярожненька пацягні.

Аксана жарт зразумела і прамовіла:

– Я дазваляю.

Міколка асцярожненька пацягнуў за касу. Як усе цешыліся!

У час тлумачэння я прасіў, каб слабы вучань, які ў чымсьці не ўпэўнены, паглядзеў да суседа ў сшытак, запытаўся ў яго, каб моцны вучань не чакаў просьбы, а сам пацікавіўся і зазірнуў да суседа, паправіў ягоную памылку, растлумачыў арфаграму.

А вось на дыктоўках, кантрольных работах ці працы па картках вучні за партамі сядзелі амаль плячамі адзін да другога, каб адны другім не перашкаджалі.

Лічу свінствам, калі настаўнік пры выстаўленні адзнак за чвэрць на некаторыя з іх не звяртае ўвагі. На кожную адзнаку вучань працуе, таму ўсе яны паўнавартасныя, раўнапраўныя. Пры выстаўленні адзнак за чвэрць, прасіў вучняў у час замацавання ці на перапынку выпісаць з журнала свае адзнакі, палічыць, што атрымліваецца. Калі адзнака не задавальняе, то здаць залік ці напісаць слоўнікавую дыктоўку. І для заліку, і для дыктоўкі даваліся для паўтарэння адпаведныя параграфы, звычайна 8-12.

Аднойчы вясёлы вучань, у якога былі дзве тройкі і шэсць чацвёрак пытаецца:

– Ці магу я атрымацьза чвэрць пяцёрку?

– Можаш.

– А колькі пяцёрак мне трэба атрымаць?

– 12 выдатных адзнак – і пяцёрка за чвэрць твая. Да канца чвэрці тры тыдні. Заўтра і пачынай свой цяжкі марафон.

Запісаў я на дошцы, якія параграфы паўтараць для заліку, якія для слоўнікавай дыктоўкі.

Я не жартаваў, калі б вучню ўдалося атрымаць 10 пяцёрак, то выдатную адзнаку за чвэрць я яму паставіў бы, але ж на першым заліку ў яго атрымалася чацвёрка. Чаму 10 пяцёрак, а не 12?

У мяне быў такі закон: калі вучань атрымаў запар пяць пяцёрак ці ў сшытку для хатніх заданняў, ці ў кантрольным, ці ў класным журнале, то стаўлю пяцёрку ў запасе. Што гэта значыць: ты на любым уроку можаш заявіць: “Не хачу за адказ тройкі, а пастаўце пяцёрку з запасу”. На жаль, такія пяцёркі мелі толькі вельмі моцныя вучні. Аднойчы мне завуч школы Вера Цеафілеўна кажа:

– Учора мы вельмі позна скончылі выбіраць бульбу, і Рыта гаворыць: “Заўтра шэсць урокаў, усе цяжкія. Па беларускай мове я маю пяцёрку ў запасе, таму не буду вучыць, гісторыю таксама не буду, бо пазаўчора адказвала, а нас выклікаюць толькі праз 3-4 урокі, рускую літаратуру не вывучу, бо там верш на памяць. Папрашу, каб адказваць на другім уроку. Па алгебры заўтра кантрольная, а геаграфію мушу вывучыць, бо там у мяне толькі адна адзнака”.

– Вось бачыце, што робіць ваша пяцёрка ў запасе: яна не вывучыла беларускай мовы.

– Але ж яна не вывучыла і іншых прадметаў, а, між іншым, яна сёння атрымала дзве пяцёркі. Па хатнім заданні папрасіла паставіць пяцёрку з запасу, а па картках яна на мінулым уроку вывучыла, перад урокам паўтарыла.

У яе за чвэрць ніводнай чацвёркі няма. Добра, што дзіця адчувае сябе на кожным уроку ўпэўнена, не перажывае. Колькі здароўя гэтай пяцёркай у запасе яна зберагла!

Апошні час у яе столькі пяцёрак у запасе, што яна просіць ставіць іх адразу.

У чацвёртым ды пятым класах, а часам па просьбе вучняў і ў шостым, на сшыткі, у якіх ёсць некалькі камплектаў "пяць на пяць" наклейвалі чырвоныя зорачкі. Прыемна было аддаваць вучню такі сшытак. Зорачкі на вокладкі сшыткаў наклейвала адна з выдатніц. Бывала, што і сам грашыў: у вучня чатыры пяцёркі запар, а ў пятай рабоце бачу памылку:

– Ты правер яшчэ раз: гэта ж пятая пяцёрка!

Як дзіцятка знойдзе памылку, то яно пра яе раскажа матулі і сяброўцы, а як не знойдзе, то таксама запомніць яе на ўсё жыццё.

Вельмі абураюся, што сёння некаторыя настаўнікі за нягрубую памылку або нават за апіску ці папраўку не ставяць дзесяткі. А ёсць і такі, які сцвярджае:

– Бог ангельскую мову ведае на пяцёрку, я на чацвёрку, а вучань больш як на тройку не можа ведаць.

Вось куды махнуў: ставіць сябе побач з Богам.

Я казаў так вучням:

– Кожны чалавек ведае не больш за 10-15 тысяч слоў, значыць, і я ведаю не больш за 15 тысяч, а ў беларускай мове ў слоўніках ужо улічана каля ста тысяч, а ёсць іх, магчыма, каля мільёна, то атрымліваецца, што я ведаю толькі сямідзесятую частку ўсіх беларускіх слоў. Дзеткі, гэта не мала. Вось якая багатая наша мова. Таму будзьце ўважлівымі да кожнага слова, да кожнага правіла, да кожнага сказа. Збірайце дыялектызмы, каб яшчэ больш узбагаціць нашу мову. Кажуць, што няма такога доктара філалагічных навук, які б запісаў сшытак ці два, не заглянуўшы ў слоўнік, не саромейцеся пытацца, заглядаць у слоўнікі, вучыцца.

Калісьці пытаецца ў мяне настаўнік Баравік:

– Як ты ваюеш з дыялектызмамі?

– Я не ваюю, а збіраю іх. Калі вучань дапусціць у сачыненні неапраўданы дыялектызм, якога я не чуў, то я яму кажу: "Гэта вельмі важны дыялектызм, калі ты запішаш яшчэ хоць адно такое трапнае наша мясцовае слова, то я табе пастаўлю пяцёрку, але ў гэтым выпадку ўжыві літаратурны адпаведнік, бо ў іншай мясцовасці гэтага слова не зразумеюць: яно пакуль не агульнаўжывальнае. Адзнакі я табе не зніжаю, але ў літаратурнай мове пакуль не карыстайся гэтым словам, а ў гутарковай яно вельмі прыгожа гучыць, бо мяккае, далікатнае. Будзем спадзявацца, што гэта нараджэнне яшчэ аднаго літаратурнага слова ў нашай багатай і прыгожай мове. Віншую са знаходкай. Слова мілагучнае, трапнае! Будзем спадзявацца, што яно стане літаратурным".

Аднойчы заходжу ў клас і з парога стаўлю пытанне вучням для пісьмовага адказу на картках. Дайшоў да стала, другое пытанне. Заходзіць дырэктар школы Ярмак Мікалай Іванавіч і пытаецца, ці можна папрысутнічаць на ўроку.

– Калі ласка, – адказаў я.

Мне не хацелася, каб начальства бачыла маю методыку, бо хоць ужо была другая палавіна васьмідзесятых, але пра Белакоза стараліся не ўспамінаць: лаяць ужо не выпадала, а прапагандаваць вопыт не хацелася, хоць ужо прыязджалі загадчык Зэльвенскага РАНА Давідзеня паглядзець, як я пішу рабочыя планы, інспектар аблана, метадыст Міністэрства асветы Юбко. Але ў школе і РАНА пра методыку выкладання беларускай мовы ў Гудзевічах маўчалі.

Спачатку ўзнікла жаданне змяніць ход урока, правесці так, як патрабавала тады савецкая методыка, але што падумаюць пра мяне вучні? Я працягваў ставіць пытанні, а вучні адказваць.

– Вучням з апошніх партаў сабраць картачкі.

Праз секунд 10 карткі ляжалі на настаўніцкім стале. Растлумачыў новую тэму, адказвалі на ўсе пытанні па замацаванні. Запісалі скарочана адказы ў хатнія сшыткі. Пачалі выконваць практыкаванне для замацавання. Аб'явіў адзнакі вучням за карткі. Пасля кожны вучань называў адзнаку за хатняе заданне і за карткі, а я дробам ставіў у класны журнал. Затым дзеці з першай парты прынеслі дзённікі, і я ім паставіў па дзве адзнакі. Падходзілі дзеці адзін за другім. Пасля праверылі выкананне вучнямі практыкавання для замацавання новай тэмы. Запісаў на дошцы хатняе заданне. Максім расказаў, як будзе яго выконваць. Празвінеў званок.

На педсавеце дырэктар школы грымеў:

– Алесь Мікалаевіч за тры хвіліны апытаў 26 вучняў і паставіў 52 адзнакі, за сорак хвілін растлумачыў і замацаваў новую тэму. На ўсе пытанні адказаў нават Максімка, запісалі і абмеркавалі ход выканання хатняй работы. Урок скончыўся разам са званком. Чвэрць канчаецца, а ў класным журнале Пётр Пятровіч па фізіцы не паставіў нікому з вучняў ніводнай адзнакі. Мала іх і па іншых прадметах, а па беларускай мове ў кожнага вучня на кожным уроку стаяць па дзве адзнакі. Хоць беларускай мовы ў шостым класе толькі дзве гадзіны за тыдзень, але тут кожны вучань мае па 10-14 адзнак. Чаму я пайшоў на ўрок да Алеся Мікалаевіча? Стаіць дзяжурны вучань каля дзвярэй з калідора і вучыць беларускую мову. Перад кабінетам вучні з кнігамі: яны паўтараюць беларускую мову. Заходжу ў кабінет: там таксама ўсе з кнігамі. Пытаюся, чаму яны так вучаць беларускую мову, а да іншых прадметаў не рыхтуюцца. “Мы ведаем, якія будуць пытанні, а таму рыхтуемся, каб пераканацца яшчэ раз, ці нічога не забыліся.”

– Больш за тое, – працягвае дырэктар, – я пытаюся ў вучняў, чаму яны сустракаюць Алеся Мікалаевіча за сто метраў ад школы і забіраюць у яго партфель. Яны кажуць: “Алесь Мікалаевіч пойдзе ў настаўніцкую на другі паверх па класны журнал, а мы за гэты час дастанем з ягонага партфеля нашы хатнія сшыткі, збярэм з заданнямі, якія выконвалі ўчора, а прынесеныя раскладзем на парты. Мы яшчэ да ўрока ведаем, якія адзнакі атрымалі за хатнія заданні, праааналізуем свае памылкі і вырашым, ці згаджацца з пастаўленай адзнакай, ці выканаць хатняе заданне яшчэ раз, каб атрымаць самы высокі бал”.

Завуч школы, выкладчыца рускай мовы, напала:

– Если бы мы все так требовали с учеников, то они не смогли бы так отвечать: у них не хватило бы времени на подготовку.

– Мае вучні хатняе заданне рыхтуюць тры-восем хвілін. Калі б усе пераняли маю методыку, то вучні выконвалі б усе заданні за 20-50 хвілін. Яны мелі б больш часу для чытання мастацкай літаратуры, заняткаў спортам, гульняў.

– Они и так уроков не учат. На моих уроках русского языка они учат белорусский. Ваша методика вредит всей школе.

– Скажыце вучням, – не згадзіўся я, – што дазваляю ім выконваць рускую мову на маіх уроках.

– Как же! Они на белорусском языке боятся пропустить хоть одно слово.

– Я цешуся, што дзеткі так старанна ставяцца да роднай мовы.

– А ведаеце, што ўчора мы былі ў Ганасаўцах і пераканаліся, што вучні рыхтуюцца толькі да вашых урокаў: Трайгель Тэрэза зранку (была нядзеля) прыбрала ў хаце, памылася, расчасалася, адзела парадную форму і, не выканаўшы ніводнага ўрока, складала вершы. Напісала аж тры. Мы цікавімся, чаму яна, не выканаўшы ўрокаў, села за складанне вершаў. Тэрэза адказала: “Цяпер да мяне прыйшло натхненне напісаць верш. Вось я і сяджу, складаю, прыдумваю, папраўляю, шукаю патрэбныя метафары, параўнанні, эпітэты, сінекдаху, алітэрацыю, рыфму.” Мы сказалі бацькам, каб яны не дазвалялі ёй складаць вершы, пакуль не выканае ўсіх хатніх заданняў.

– А каб Тэрэза ў той час, як вы прыйшлі, рашала задачы павышанай цяжкасці па фізіцы ці матэматыцы, вы таксама загадалі б бацькам не дазваляць гэтага?

– Што вы раўняеце? Вершы і задачы?

– У Маскве сабралі па адным дзесяцікласніку з кожнай Маскоўскай школы. Карэспандэнт запытаўся ў іх: “Што называецца ямбам?” Ніхто не адказаў. Я вельмі здзівіўся, што ў Маскве такія слабыя вучні. Пасля тэлеперадачы назаўтра ж у шостым класе запытаўся пра ямб. Палавіна вучняў падняла рукі, пытаўся пра гэта ў іншых класах – менш за трэцюю частку ад наяўных вучняў нідзе не было. А ў Маскве збіралі самых моцных будучых медалістаў. Нават наша Гродна абскакала Маскву.

*Аднойчы прыехаў у Гродна лектар-прафесар з Масквы, каб прачытаць выпускнікам школ лекцыю па міжнародным становішчы. Распавёў пра ўсе, нават самыя маладыя краіны. А адзін гарадзенскі вучань пасля сканчэння лекцыі запытаўся:*

*– Якія адносіны Савецкага Саюза з Індурай?*

*– Узаемаадносіны з Індурай яшчэ не ўстаноўлены, але перамовы вядуцца на самым высокім узроўні Міністэрстваў замежных спраў абедзвюх краін.*

*– Га-га-га! – дружна зарагатала ўся зала, бо Індура – гэта маленькае мястэчка за 25 кіламетраў ад Гродна.*

Чаму ж нашы вучні так абагналі нават маскоўскіх медалістаў? Бо яны самі пішуць вершы, а тут без ведання вершаваных памераў няма чаго рабіць. Вам бы падтрымаць цікавасць дзяўчынкі да літаратуры, а вы – забараніць! Не дазваляць! Не “пушчаць”! Вы ж завуч па выхаваўчай рабоце і так безразважна абсеклі захапленне дзяўчынкі літаратурай.

– Известно! Они ответят на пятёрки: вы же их предупреждаете, какие будут вопросы! – абурылася выкладчыца рускай мовы (рускую мову ў Гудзевіцкай сярэдняй школе выкладалі пяць настаўніц, а беларускую адзін Белакоз. Часам у адным класе беларускую мову аддавалі піянерважатай ці камусьці з настаўнікаў).

– А мы што? Гуляем з вучнямі ў хованкі? Ставім мэтай злавіць іх ды паставіць двойку? Калі так, то мая методыка не падыходзіць. Злавіць льга любога: вы мяне, а я вас, а вось навучыць цяжэй. Я хачу, каб вучні коратка, сваімі словамі маглі адказаць на ўсе пытанні, якія ўзнікнуць у параграфе. У нас жа якая традыцыя ўстанавілася, што двоечніку – атрымлівай сваю адзінку (я ўжо гаварыў пра механізмы, якія дазваляюць сумленнаму вучню не вывучыць урокі і не атрымаць непажаданай адзнакі). Калі ж ты назаўтра падрыхтаваўся па гэтай тэме, то атрымай заслужаную пяцёрку .

У 1948 годзе я першы год працаваў настаўнікам пачатковых класаў Гудзевіцкай сямігадовай школы. Прыходжу на ўрок, выклікаю Віцю Дзмітрыева, а ён заяўляе, што не падрыхтаваўся да ўрока. Я яму двойку. Устае Вершаль Аксана, кругая выдатніца, і кажа: “І я не вывучыла”. Я падумаў, што несправядліва Віталю паставіць двойку, а Аксане за тую ж правіну нічога не паставіць. Я, амаль плачучы – і ёй двойку. Плача Аксана, плачу і я і думаю, што штосьці кульгае ў маёй філасофіі: нельга ж абібока ставіць у адзін шэраг з чалавекам працавітым, старанным. А заўтра ў Аксаны прасіў прабачэння:

– Даруй, Аксана, што я цябе паставіў у адзін шэраг з гультаём Віцем. З сённяшняга дня я складаю ў сваёй запісной кніжцы спіс вучняў вашага класа. Кожны з вас тры разы за год мае права паведаміць: “Я сёння не падрыхтаваўся да ўрока – пастаўце мне кропку”. Праз тры ўрокі Дзмітрыеў будзе мець тры кропкі, а Аксана ніводнай. Калі Аксана праз некалькі тыдняў кажа, што не выканала хатняга задання, то ёй адкажу:

– Маеш права ў гэтым годзе яшчэ два разы не вывучыць. А сёння Аксане стаўлю кропку, а двойку закрэслю як памылковую. Мог бы і Віталю замест тае адзінкі паставіць кропку, але ён за адзін тыдзень атрымае ўсе тры свае кропкі.

Такі метад даваў мне маральнае права аднаму вучню ставіць двойку, а друому – кропку. І гэта было законна. Вучням гэта падабалася. Дарэчы, Аксана да канца навучальнага года не атрымала больш ніводнай кропкі. Такіх бязкропачнікаў у кожным класе набіралася каля васьмі. Шкадую, што гэтым старанным вучням у канцы года не ставіў дадатковай пяцёркі, бо за год ні разу не праштрафіцца цяжка, асабліва на вёсцы, дзе дзеці многа працуюць. Пасвіў хлопчык увесь дзень кароў, а познім вечарам узяўся за ўрокі. Тут і матуля пашкадуе сына, бо, стаміўшыся фізічна, і разумова працаваць значна цяжэй.

Яшчэ калі я вучыўся ў восьмым класе (1944г.), мне падумалася: “У царскасельскім ліцэі задалі вучням напісаць на ўроку верш. Якія былі разумныя вучні: мы ж не здолелі б зрабіць гэтага.”

У 1965 годзе, калі я канчаткова пераканаўся, што ЦК КПСС, КГБ і Міністэрства асветы робяць усё магчымае, каб знішчыць беларускую мову, вырашыў у меру сваіх сіл перашкаджаць гэтаму: вучыць дзетак напісанню вершаў, апавяданняў, нарысаў, драматычных твораў, збіранню фальклору: дыялектызмаў, прыказак, прымавак, лічылачак, казак, песень і інш., пачаць перапіску з патрыётамі: пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, дзеячамі навукі і культуры, выдаваць орган гуртка беларускай літаратуры часопіс “Праменьчык”, збіраць матэрыялы для стварэння літаратурна-краязнаўчага музея, аднавіць у школе і ў музеі ткацтва.

Паехаў у Эйсманты, Луну, Вярэйкі падымаць настаўнікаў на барацьбу за абарону беларускай мовы ад знішчэння. Настаўнікі сустракалі мяне прыязна, але тлумачылі, што гэтым мы даб'емся толькі таго, што нас вызваляць з працы, а на наша месца прышлюць манкуртаў. Яны мелі рацыю, але я перасварыўся з імі і адзін напісаў ліст у ЦК КПБ. Пасля гэтага пачалося "райскае" жыццё. Бясконцыя саветы РАНА па маёй персоне, праверкі школы з настройваннем педагогаў супраць мяне, з выдумваннем "недахопаў" у маёй працы, абмежаваннем маіх педагагічных магчымасцяў ды шмат чаго яшчэ. Аднак на гэтых старонках мне хочацца звярнуць большую ўвагу не на цяжкасці, а на метадычны бок працы.

– Вы абясцэньваеце адзнаку: ставіце пяцёркі ў класны журнал нават за пісьмовае хатняе заданне, – папракала завуч.

– Я, як класны кіраўнік, раз за чвэрць праглядаю сшыткі сваіх вучняў па матэматыцы, рускай мове і іншых прадметах. Дзіўлюся, што большасць дзетак за хатнія пісьмовыя заданні мае нездавальняючыя адзнакі. Вядома, паставіць іх у журнал няма магчымасці: гэта зробіць паўкласа непаспяваючымі. А вось калі б вы ставілі адзнакі за хатнія практыкаванні ў журнал, то і па рускай мове былі б у большасці пяцёркі ды чацвёркі. Дык што лепш? Каб дзеці выконвалі хатнія заданні на пяцёркі і ставіць іх у класны журнал, ці няхай з дня ў дзень пішуць на адзінкі, абы-як і абы-што? Адзнака – гэта адзіная плата вучню за старанную працу, а вы чамусьці шкадуеце паставіць пяцёрку ў журнал. Вы кажаце, што калі вучань хатняе пісьмовае заданне выканае на пяць, то ён не стане ведаць прадмет на пяцёрку. Гэта праўда. Але калі вучань дзесяць гадоў будзе выконваць ўсе хатнія заданні на пяцёркі, то ён будзе ведаць беларускую мову на пяць. Тут папракалі мяне, што пры апытанні на картках дзеці развучваюцца гаварыць. Гэта не так. У час замацавання я дабіваўся, каб кожны вучань мог адказаць на ўсе пытанні, а калі і не адказваў, але падымаў руку, то ён сфармуляваў адказ, ён мог бы адказаць, ён чуе адказ сябра, адказ не зазубраны, а сфармуляваны самастойна, скарочана, а нам так важна навучыць дзетак звязнай, лагічнай, лаканічнай мове. Ліць ваду мы ўмеем, а вось выказаць сваю, а не спісаную думку часам не можам.

Памятаю, неяк а 9-й гадзіне сабраў нас загадчык Ваўкавыскага РАНА Жарскі і кажа:

– Вы, дырэктары і завучы школ, сёння да дзесятай гадзіны выслухаеце і абмяркуеце 8 дакладаў, а ў 10 гадзін наведаем адкрыты ўрок, у адзінаццаць адкрытае выхаваўчае мерапрыемства. Пісьмова прааналізуйце вядзенне ўрока і мерапрыемства, а пасля ў гасцініцы складзеце пісьмовы разбор і здадзіце ў РАНА. Ці ёсць пытанні?

– Растлумачце, калі ласка, як гэта мы за паўгадзіны выслухаем і абмяркуем восем дакладаў.

– А гэта вы зараз самі ўбачыце, – супакоіў Жарскі. – Выступае дырэктар энскай школы Міхайлаў.

Той пачаў:

– Идя на встречу решениям XXI с'езда...

– Даруйце, калі ласка, у вас якая тэма?

– Работа над памылкамі на ўроках мовы, – адказвае выступовец.

– На XXI з'ездзе нічога не гаварылася пра работу над памылкамі. Вы выступайце па тэме.

Прачытаў дырэктар сказаў пяць, а Жарскі пытаецца:

– Гэта вы спісалі з чацвёртага нумара часопіса "У дапамогу настаўніку"?

– Так, – прызнаецца выступовец.

– Мы гэты часопіс чыталі. Вы раскажыце, як самі праводзіце работу над памылкамі ў класах?

Дырэктар пык-мык і спыніўся.

– У вас ўсё? – пытаецца Жарскі.

– Так, – прызнаецца дырэктар.

– Думаю, што абмяркоўваць даклад няма патрэбы, выступае наступны. Сшыткі з дакладамі можна не браць.

Другі дырэктар выступаў хвіліны тры.

– Слова мае... – аб'явіў Жарскі.

За паўгадзіны выступілі ўсе запланаваныя дакладчыкі. Пайшлі на адкрыты ўрок.

Гэты выпадак паказаў, што нават дырэктары ды завучы школ без паперкі выказаць сваіх думак не могуць.

А вы тут пра развіццё мовы. Мае вучні развіваюць сваю мову, складаючы вершы, нарысы, драмы, апісваючы прадзедаўскую ліпу, бярозу, якую пасадзіў дзядуля, адыходзячы на вайну, з якой не вярнуўся, гісторыю навакольных вёсак, назваў мясцовых палеткаў, балот, лясоў, пішучы лісты Уладзіміру Караткевічу, Ларысе, Генюш, Івану Мележу, Пімену Панчанку, Янку Брылю, Хвэдару Янкоўскаму, Аляксандры Бергман, Паўліне Мядзёлцы, Зосьцы Верас, Пятру Сергіевічу, Юрыю Семеняку, дочкам Іларыёна Свянціцкага і сотням іншых беларускіх і замежных пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, былых палітычных дзеячаў, яны развіваюць сваю мову на фальклёрна-этнаграфічных вечарынах, якія праводзяцца ў сялянскай хаце-музеі XVIII стагоддзя, у сачыненнях па лістах Янкі Брыля, Вячаслава Целеша, Яна Гушчы, Ніла Гілевіча, Юрыя Тарасевіча, у карэспандэнцыях пра Сяргея Крыўца, Міхася Явара, Агату Тарасевіч, Міхася Грыбава і інш.

Я ганаруся, што выкладчыцы-завочніцы беларускай мовы з суседніх школ прыходзілі да маіх вучаніц старэйшых класаў і прасілі, каб напісалі ім кантрольную работу па беларускай літаратуры або, каб дапамаглі зрабіць цэласны аналіз верша. І яны дапамагалі вельмі добра.

Аднойчы выкладчыца беларускай мовы Гудзевіцкай школы Азарка Галіна Язэпаўна звярнулася да мяне з такой бядой:

– Мне далі вельмі дзіўную тэму для курсавой работы "Цэласны аналіз верша Максіма Танка "Родная мова". Што пісаць, я не ведаю і нават не ўяўляю, як робіцца такі аналіз. Я пачаў ёй тлумачыць, як выканаць кантрольную, а яна просіць, каб я напісаў ёй работу. Хацеў прапанаваць дапамогу маіх вучняў, амаль кожны са старшакласнікаў выканаў бы гэтае заданне выдатна, але не выпадала ганьбіць настаўніцу, бо дзеці смяяліся б, што вучні настаўніцы-завочніцы пішуць кантрольныя работы. Сеў за друкавальную машынку і за гадзіны тры надрукаваў ёй курсавую.

Перапісала яна ў сшыткі і паслала ў інстытут. А адтуль рэцэнзія: "Работа спісана ў студэнтаў БДУ. Адзінка." Я ёй раю:

– Бярыце лісты Максіма Танка да нашых вучняў, ягоныя зборнікі з аўтографамі аўтара для нашага музея, зборнік перакладаў на рускую мову Якава Хелемскага з аўтографам для вучняў Гудзевіцкай школы і едзьце да выкладчыка, які пісаў рэцэнзію. Скажыце, што кантрольная работа пісалася і па гэтых экспанатах музея, скажыце, што я дапамагаў вам пісаць, даваў парады.

Яна так і зрабіла. Выкладчык кажа:

– Я не думаў, што ў нашым інстытуце хтосьці са студэнтаў здолеў напісаць такую работу.

Папрасіў прабачэння і паставіў пяць.

З гэтым цэласным разборам (раней называлі яго ідэйна-мастацкім разборам вершаў) былі ў нас, студэнтаў, вялікія цяжкасці. Памятаю, выкладчык інстытута Міхась Дуброўскі пужаў нас, што кожнаму на экзамене будзе ідэйна-мастацкі аналіз верша.

– Вы ж навучыце нас, як рабіць гэты аналіз.

– Гэта трэба не вучыць, а адчуваць: мастацкая літаратура такі далікатны інструмент, які трэба адчуваць сэрцам. А вы навучыце ды навучыце...

Спасцігнуць далікатнасць гэтага "інструменту" я не мог, бо нарадзіўся не лірыкам, а матэматыкам, таму пачаў разважаць цвяроза: "Крытыкі нешта ж пішуць пра вершы, а што?"

Пачытаў падручнік Рыгора Шкрабы для 9-га класа і ўбачыў, што ў адным вершы ён расказвае на дзвюх старонках пра ідэю твора, а ў другім толькі распавядае пра гісторыю яго напісання, у іншым выпадку вядзецца размова пра від лірыкі, пра значэнне твора. Бывае, што характэрызуе рытм, рыфму, а часам разважае пра выяўленчыя сродкі мовы. Вось на падставе прачытаннага я склаў сабе такі план аналізу верша:

1. Гісторыя напісання.
2. Від лірыкі.
3. Тэма і ідэя.
4. Роля выяўленчых сродкаў мовы ў раскрыцці ідэі.
5. Характарыстыка рытму, рыфмы.

6. Значэнне твора.

Прыходжу на ўрок і кажу вучням:

– Ад сённяшняга дня ідэйна-мастацкі аналіз новага верша будзеце рабіць вы: вам здаваць экзамен, а не мне. Каб ведалі, як гэта робіцца, запішыце план: па ім вельмі добра адказваць. Праз некалькі ўрокаў вы яго будзеце ведаць на памяць.

А цяпер новы верш “Я не для вас...”

Прачытае новы верш Шыпіца Пецfolder: у яго дыкцыя, як у Левітана.

Прадэкламаваў Пецз. Пачытайце самастойнна і паспрабуйце адказаць на пункты плана.

– Хто можа расказаць пра гісторыю напісання верша?

– Верш напісаны на пачатку XX стагоддзя. Гэта быў час, калі...

– Працягвай, Верачка, – прапаную я другой дзяўчынцы.

Вера: “Калі беларуская мова забаранялася, нават друкаваць кнігі і газеты было складана: “Наша доля” зусім забаронена, а “Наша ніва” вымушана была ўзгадняць свае артыкулы з юрыстамі, каб цемрашалы не маглі зачыніць газеты. Не было беларускіх школ, ВНУ, у дзяржаўных установах беларусы вымушаны былі карыстацца чужой мовай, культура беларуская захоўвалася толькі ў народных масах: песні, казкі, паданні, загадкі, прыказкі, прымаўкі сведчылі, што беларуская мова багатая, прыгожая, мяккая, што наш народ, які стварыў такія цуды, здольны, таленавіты, мужны, бо часта чуецца ў фальклоры пратэст, заклік да барацьбы. Але беларусы – пакуль не толькі прыгнечаны нацыянальна, але і сацыяльна: большасць зямель у руках польскіх або рускіх абшарнікаў, а селянін вымушаны амаль бясплатна працаваць на пана, каб на нашай спрадвечнай сенажаці накасіць капіцу сена, або папасвіць кароўку, каб у прадзедам пасаджаным лесе спусціць сасну на сцябло да калодзежа ці бярозу на паліва, павінен адпрацаваць пану.”

– А што можна сказаць пра від лірыкі? – да чарговага вучня.

– Верш патрыятычны, бо ён прасякнуты болем за лёс роднага люду, аднак я б сказала, што гэта больш палітычная лірыка, а дакладней патрыятычна-палітычная.

Настаўнік:

– Лічу, што можна назваць палітычнай або патрыятычнай, але добра было б, каб прагучала некалькі слоў доказу, што паэт рвецца “падняць скібіну слова”.

– У той час ды і заўсёды бараніць нашу мову ад суседзяў, якія хацелі б знішчыць нас як нацыю, было цяжка і небяспечна: беларускіх патрыётаў знішчалі фізічна і маральна і ў час панавання тут Польчшы, і царскія шавіністы заўсёды ставіліся да нас варожа. Выраз “над доляй плачу свайго люду” таксама сведчыць пра шчыры патрыятызм лірычнага героя. Я гэты верш назвала б патрыятычным.

– А цяпер прачытаем верш “Сынам Беларусі” нашага блізкага земляка, які ў 1910-1911 гадах працаваў настаўнікам у Струзе Гудзевіцкай воласці.

*Часта мне жыць не пад сілу прыходзіцца,*
*Сумная думка ў душы маёй родзіцца,*
*Сэрца нудою шчыміць.*
*Як пагляджу, што навокал нас дзеецца,*
*Сіл няма, веры на жыцце надзеяцца, –*
*Ажно не хочацца жыць!*
*Ўсё, што ўзрасціла старонка любімая,*
*Ўсё, што магла даць, як матка радзімая, –*
*Ўсё на сынкоў аддала.*
*Чым жа яны ёй за ўсё адгадзіліся?*
*Тым, што зусім ад яе адхіліліся,*
*Быццам не маць ім была…*
*Сэрца ад гневу майго разрываецца,*
*З вуснаў праклящце, сынкі, вам зрываецца,*
*Вам, Беларусі сыны!*
*Вы адракліся, забылі, пакінулі,*

*Вы для старонкі радзімае згінулі.*
*Здраднікі вы, не сыны!*
*Ўсё, што магла, аддала вам любімая,*
*Быццам як матка для дзетак радзімая,*
*Ждала адплаты, уцех!..*
*Доўгу ж свайго перад ёй вы не споўнілі,*
*Грабіць – аграбілі, а не напоўнілі…*
*Ці ж вам не стыдна, не грэх?!*

– Хто гэты верш можа прааналізаваць паводле складзенага плана?.. Калі ласка, Марына.

– Верш "Сынам Беларусі" ў 1911 годзе напісаў наш зямляк М.Арол, працуючы ў Струзе, тут, каля Гудзевічаў, а, мажліва, у час вакацыяў у мястэчку Гарадок, што каля Беластоку. У Струзе, ён вёў актыўную патрыятычную працу, бо пра яго нават у 70-х гадах XX стагоддзя мясцовыя сяляне распавядалі з вялікай сімпатыяй, а ў 1918 годзе да арганізацыі гэтай школы мелі непасрэднае дачыненне М. Арол і Паўліна Мядзёлка. М. Арол тады яшчэ жыў, яго расстралялі польскія ўлады ў пач. 20-х гадоў XX стагоддзя. Тады, у 1911 годзе, інтэлігенцыя Гудзевічаў і Луны не рвалася да патрыятычнай працы. Гэта дало падставу М. Арлу напісаць такі патрыятычны верш.

Вядома ж, гэта ўзор патрыятычнай лірыкі: увесь верш прасякнуты болем шчырага патрыёта, тут асуджаецца наша інтэлігенцыя за абыякавасць або нават варожасць да ўсяго беларускага.

Тэма верша – паказ ганебнасці рэнегацтва, здрады дзеля карысці суседніх з Беларуссю народаў. Ідэя твора – асуджэнне абыякавасці да ўсяго роднага. Сыноў-манкуртаў ён параўноўвае з юдамі:

Вы адракліся, забылі, пакінулі,
Вы для старонкі радзімае згінулі,
Здраднікі вы, не сыны!

Калі я ў музеі высокім чына́м-экскурсантам чытаю гэты верш, то некаторыя з іх чырванеюць ад сораму: яны разумеюць, што верш асуджае іх, здраднікаў.

– Кампазіцыя верша таксама незвычайная. У кожных двух радках ставіцца нейкая праблема, яны напісаны чатырохстопным амфібрахіем, у трэцім радку робіцца выснова. Тут ужо трохстопны амфібрахій. Гэтыя вершаваныя памеры ўсюды строга вытрымліваюцца. Рыфма – дакладная, багатая: у кожных двух радках рыфмуюцца тры склады. Тут рыфма жаночая. У трэціх радках амфібрахій трохстопны, рыфма мужчынская, таксама багатая, бо ўсюды зрыфмаваныя па два склады: шчыміць – жыць. Паводле нашай крытыкі, недахопам з'яўляецца тое, што ў вершы шмат дзеяслоўнай рыфмы, хоць я лічу гэта дапушчальным, бо дзеяслоўная рыфма сустракаецца нават у такіх карыфеяў вершаскладання, якімі былі Янка Купала ці Аляксандр Пушкін.

Дзеля дасягнення паказу ганебнасці рэнегацтва паэт падбірае трапныя эпітэты: думкі смяртэльныя, старонка любімая, матка радзімая. Апошні два эпітэты сталыя. І няма дзіва: М. Арол вельмі фундаментальна вывучаў беларускую народную песню, любіў яе, а народных песняў без сталых эпігэтаў мне сустракаць не даводзілася.

Вялікую сілу вершу надаюць параўнанні: тут сынкі-манкурты быццам юды, старонка ўсё аддала сынкам, "як матка радзімая..." Значэння гэты верш ніколі не страціць: на жаль, у кожным народзе ёсць здраднікі, баязліўцы, кар'ерысты, якія дзеля карысці матулю родную прададуць. Асуджаючы такіх суб'ектаў, бо людзьмі называць іх не хочацца, сцвярджаецца патрыятызм, адданасць свайму люду, сваёй мове, своёй краіне.

– Вось вам, дзеткі, – кажу вучням, – узор цэласнага разбору. План мы запісалі не для таго, каб вы абавязкова пра ўсё гэта разважалі пры адказе. Вы адказвайце на тыя пункты плана, на якія можаце, а калі вершаваны памер цяжка вызначыць ці пра гісторыю напісання нічога не ведаеце, то прапусціце гэтыя пункты плана і не адказвайце на іх. План даецца для таго, каб вы ведалі, пра што можна распавядаць у час адказу. Што адбываецца ў падручніку па беларускай лігаратуры? Там часта асвятляецца толькі адзін ці два пункты нашага плана. І тым не менш падручнік дапушчаны да выдання. Маючы гэты план, вы можаце правесці цікавае назіранне. У хаце прачытаеце зададзены верш, паводле гэтага плана робіце яго аналіз, а пазней чытаеце падручнік. І пераканаецеся, што

прааналізавалі твор значна лепш за аўтара падручніка. Прыемна адчуваць сябе на ўзроўні прафесара.

Пасля гэтага ніякіх праблем з цэласным разборам верша ў нашых вучняў не было.

Аднойчы, на жнівеньскім паседжанні раённай секцыі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, чытаў даклад завуч Луненскай СШ спадар Вайтовіч. Ён напісаў вельмі аб'ёмны даклад, мы ўважліва выслухалі яго, а пасля адна маладая настаўніца сказала:

– Я выслухала даклад, але не зразумела, як даваць ідэйна-мастацкі аналіз верша. Можа хтонебудзь з прысутных зразумеў ці і раней ведаў, як гэта робіцца, то раскажыце, калі ласка.

На секцыі прысутнічала інспектар РАНА Аляксандра Мікалаеўна Сасноўская. Яна папрасіла выступіць жадаючых. Такіх не было. Тады Сасноўская сказала:

– Можа, Алесь Мікалаевіч падзеліцца вопытам?

Яна лічыла, што калі Вайтовіч не здолеў раскрыць тэмы, то відаць, ніхто не справіцца з гэтым. Мне магчымасці выступаць у той час не давалі, бо заўсёды казаў не тое, што падабалася начальству. Тады сказаў так:

– Калі мы вучыліся ў інстытуце, то выкладчыкі Дуброўскі, Пасяўцова ды іншыя пужалі нас, што на дзяржаўным экзамене кожнаму прапануюць зрабіць ідэйна-мастацкі аналіз верша. Мы прасілі навучыць нас такому аналізу, але выкладчыкі казалі, што гэта павінна ісці ад сэрца, што крытыкам трэба нарадзіцца. Так я скончыў інстытут, не ўмеючы прааналізаваць верш. Але калі спатрэбілася самому перад вучнямі зрабіць гэта, то пачаў перачытваць падручнік і пераканаўся, што ўвесь аналіз можна лёгка правесці, склаўшы адпаведны план. Бо аўтар падручніка распавядаў то пра значэнне верша, то пра яго мастацкія асаблівасці, то пра гісторыю напісання. Вось тады я сам склаў такі план. Па ім кожны вучань можа лёгка прааналізаваць верш. І мне варта прачытаць твор – і я магу яго даволі грунтоўна прааналізаваць.

Але, відаць, я памыляюся, бо калі параіўся пра гэта з дацэнтам Аляксеем Пяткевічам, то ён абурыўся:

– Як гэта можна аналіз верша ўкласці ў нейкі план. Не! І Не! Гэтага рабіць нельга.

Насуперак пратэсту такога шаноўнага і кампетэнтнага выкладчыка кавыстаюся такім планам і, калі хочаце, то прачытаю яго вам.

– Мы запішам ваш план, – згадзіліся настаўнікі.

– Тады запісвайце, – прапанаваў я і пачаў дыктаваць свой план цэласнага аналізу вершаванага твора. Бачу: што сядзіць на другой парце настаўніца і так смяецца, што за жывот хапаецца. Пытаюся:

– Вы чаго так смяяцеся?

– Я летам гэтага года была на курсах у Гродна, і нам Пяткевіч даў такі ж план, які поўнасцю супадае з вашым.

Пры сустрэчы з Аляксеем Міхайлавічам я запытаўся ў яго, як ён настаўнікам дыктаваў план, з якім прынцыпова не загаджаўся?

– Я пра нашу спрэчку расказаў студэнтам. Яны папрасілі прадыктаваць ім гэты план. Тады я падумаў, што калі план зацікавіў студэнтаў, то ён будзе карысным і настаўнікам.

А тады, на жнівеньскай канферэнцыі, настаўнікі шчыра падзякавалі, што за нейкіх 10 хвілін яны даведаліся, як рабіць цэласны аналіз вершаванага твора.

Пошук у працы настаўніка адыгрывае вельмі важную ролю на працягу ўсяго ягонага працоўнага шляху.

Некаторыя творы мяне зачароўвалі. Я з асаблівай стараннасцю пісаў рабочы план па "Прадмове" Францішка Багушэвіча да зборніка "Дудка беларуская", да вершаў Пімена Панчанкі, Максіма Танка "Родная мова", да тэмы "Паўстанне 1863-1864 гг.", "Жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны" і многіх іншых. Да такіх урокаў часам рыхтаваўся па 3-4 гадзіны. Калі ішоў на урок – душа спявала. Пачаў пісаць такія планы ў асобных (спецыяльных) сшытках, але праз год часам іх адшукаць было цяжка. У 1968 годзе мне падумалася, што калі напішу такія разгорнутыя і фундаментальныя планы на ўсе урокі і раскладу іх, пранумараваўшы, у аб'ёмістыя папкі, то наступныя гады бу-

дуць для мяне суцэльным святам, бо на кожны урок буду ісці з цуда-планам. Пісаў кожны год толькі на адзін клас па мове і літаратуры: хацелася, каб планы былі разгорнутыя: з наглядасцю, лістамі пісьменнікаў, фотакопіямі, раздатачным матэрыялам, рэпрадукцыямі твораў мастацтва, з выпіскамі з газет, часопісаў, з радыё- і тэлеперадач, з папраўкамі, якія з’яўляліся пасля праведзеных урокаў, з дапаўненнямі.

За 35 рублёў купіў старэнькую друкавальную машынку “Райнмэталь”, якая верай і праўдай праслужыла мне 36 гадоў. На ёй надрукаваў і каляндарныя планы. На тонкай паперы адразу закладваў 9 экземпляраў: звычайна на дзесяты год мяняліся праграмы. Датаў адразу не ставіў, а калі на дзесяты год мяняліся праграмы ў 4-м класе, то зноў друкаваў ужо толькі на адзін чацвёрты клас новыя 9 экземпляраў. У наступным годзе мяняліся праграмы ў пятым класе. Такім чынам, замест таго, каб кожны год летам складаць каляндарныя планы для сямі класаў, я складаў толькі для аднаго. А гэта ў 7 разоў хутчэй, у 7 разоў лягчэй. Тады кожны наступны год толькі падстаўляў патрэбныя даты.

Рабочыя планы друкаваў у чатырох экземплярах: часам адзін прымернік губляўся сярод іншых папер, то льга было дастаць патрэбны аркуш з другога ці трэцяга асобніка. Можна пісаць шарыкавай ручкай ці алоўкам пад кальку.

На левай палавіне аркуша друкаваў даволі падрабязны план з выкананнем усіх практычных работ, запланаваных для гэтага ўрока, з пытаннямі для апытвання, для замацавання, са спасылкай на дадатковыя крыніцы, на ўкладзеную ў капэрту, памераў аркуша А-4, нагляднасць, пазнейшыя дадаткі для плана, фатакопіі, рэпрадукцыі, машынапісы, выразкі ды інш.

На правым (чыстым) баку аркуша даваліся заўвагі, зробленныя мной пасля правядзення ўрока, каб тыя недахопы, што заўважыў сам настаўнік ці ягоны калега, не паўтараліся ў наступныя гады. Бывае, што ў працэсе ўрока з’яўляецца незапланаваны прыём ці паведамленне, якое станоўча паўплывала. Гэта таксама варта запісаць у правую чыстую палавіну плана. Здараецца, што ў перыядычным друку, ці ў мастацкай літаратуры, або праз радыё ці тэлебачанне даведаешся штосьці новае, цікавае, патрэбнае. Такі матэрыял, калі ён аб’ёмісты, варта надрукаваць на асобных аркушах, а калі кароткі, некалькі сказаў, то ў правай палавіне рабочага плана або на адным з дадатковых, прыклееных да рабочага плана аркушыкаў. З часам матэрыялу збіраецца так многа, што паўстае праблема выбару: чаго не выкарыстоўваць на ўроку, а што самае істотнае, якое выкарыстаць абавязкова. Кожны настаўнік павінен мець сёння кампутар, прынтар, ксэракс. Няхай гэта будуць састарэлыя, спісаныя, танныя мадэлі, аднак і яны моцна дапамогуць у працы. Мажліва, варта пахадзіць яшчэ некалькі гадоў у старэнькім касцюме, у пацёртым паліто, але кампутар у хаце настаўніка мусіць быць. Добра было б, каб Міністэрства асветы філолагам выдала бясплатна спісаныя са школ, універсітэтаў, заводаў састарэлыя мадэлі, ці нават купіла новыя.

Вось як выглядаў рабочы план аднаго з урокаў па беларускай літаратуры ў 8 класе ў 1968 г.

| | |
|---|---|
| ТЭМА. **Агульная характарыстыка пач. XX ст. Характарыстыка беларускай літаратуры і культуры пачатку XX стагоддзя. Максім Горкі пра беларскую літаратуру.**<br><br>МЭТА. Паказаць збядненне беларускага сялянства, абуджэнне беларусаў да нацыянальнага жыцця, адносіны прагрэсіўных людзей таго часу да нашай мовы, культуры.<br><br>ПЛАНАВЫ ХОД УРОКА<br>1. АПЫТАННЕ.<br>Вобраз Аліндаркі. | *Тут чыстая палавіна плана, дапоўненая пазней.*<br><br>“Наша доля” 1 верасня 1906 г.<br>“Наша ніва” з лістапада 1906 г. да чэрвеня 1915 г.<br>“Лучынка” – часопіс для моладзі.<br>Літаратурны альманах “Маладая Беларусь”.<br>Часопіс “Саха”. |

| | |
|---|---|
| Услаўленне свабоды ў паэме “Кепска будзе”.<br>Тэма і ідэя паэмы.<br>Што такое крытычны рэалізм?<br>Значэнне дзейнасці Францішка Скарыны (з паўтарэння).<br><br>2. НОВЫ МАТЭРЫЯЛ.<br>1898 г. 1 з’езд РСДРП. Мінск.<br>Нацыянальныя ўскраіны.<br>Рэвалюцыя 1905г.<br>Уздым нацыянальная свядомасці беларускага народа.<br>Газета “Северо-Западный край” 1902-1905 гг.<br>Ігнат Буйніцкі 1870-1917гг.<br>Пецярбургскае выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца” – гл. “ЛІМ” 22.Х.1968г.<br>Сцяпан Александровіч.<br>“Наша доля”, “Наша ніва” (1906 г.), “Хрэстаматыя беларускай мовы”.<br>Новы перыяд у развіцці беларускай літаратуры.<br><br>3. ЗАМАЦАВАННЕ<br>Агульная характарыстыка пачатку ХХ ст.<br>Якія беларускія газеты выходзілі на пачатку ХХ ст.?<br>Тэатр І.Буйніцкага.<br>Новы перыяд у развіцці беларускай літаратуры.<br><br>4. ЗАДАННЕ<br>(указваюцца крыніцы і старонкі). “Дзякуй табе, браце Бурачок Мацею...”<br>Біяграфія Францішка Багушэвіча. | Успаміны Зоські Верас.<br><br>1906 г. – у Пецярбурзе заснавана выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца”.<br>1902-1905 гг. – газета “Северо-Западный край”. У гэтай газеце надрукаваны верш Я. Купалы “Мужык”. Друкаваліся артыкулы М.Горкага.<br>“Шляхам жыцця”, “Вянок”, “Абразкі”, “Тоўстае палена”<br>Сцяпан Аляксандровіч 1923 г. – 24 кнігі, каля 50 тыс. экз.<br>“Гісторыя беларускай мовы”<br>стар. 191 арт. “Што будзе?”<br>Гарадзенскі гурток беларускай моладзі “1909-1913 г.”<br>Успаміны П. Мядзёлкі.<br>Прачытаць успаміны П. Мядзёлкі пра тэатр Ігната Буйніцкага, прысланыя Гудзевіцкаму музею у 1969 г.<br>Апісанне дыскрымінацыі беларускай мовы ксёндзам Мілкоўскім. Тры старонкі П. Мядзёлкі. Ксеракопія вокладкі часопіса “Лучынка”. Зварот Цёткі да студэнтаў-беларусаў, даецца вучням праграма часопіса “Лучынка”. |

Гэта аснова плана, яна далей папаўняецца рознымі матэрыяламі. Тут: Машынапіс Паўліны Мядзёлкі “Сцежкамі жыцця”, дасланы аўтаркай Гудзевіцкаму музею; ксеракопія першай кніжкі “Лучынкі”; фатаздымак Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі; фатаздымак некалькіх старонак лемантара “Зорка”; іншыя матэрыялы.

Вось, напрыклад, фрагменты машынапісу П.Мядзёлкі.

(с. 46):

… Неяк вясной 1909 года мне далі білет на першую ў Вільні беларускую вечарынку, якая мелася адбыцца ў зале Палескага чыгуначнага клуба…

… І нарэшце – пад скрыпкі і цымбалы беларускія народныя танцы пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага. Стройны, шыракаплечы, пакручваючы густы вус, з залётным агеньчыкам у вачах выступае ў першай пары сам Ігнат Буйніцкі са сваёй дачкой. За ім Радзевіч з Уладкай Станкевічанкай, Юрэвіч, Мурашка… Восем пар танцуюць “Лявоніху”, “Юрачку”, “Мяцеліцу”, “Вераб’я”. Белыя вопраткі мужчын, рознакаляровыя андаракі і гарсэцікі жанчын, зграбныя фігуры, задорныя агністыя рухі…

З першых жа тактаў “Лявоніхі” сцены залы задрыжэлі ад гарачых воплескаў. З кожнай новай фігурай “Лявоніхі” энтузіязм публікі ўзрастаў, цяжка было ўсядзець на месцы. Адзін за другім

пачалі ўставаць з крэслаў. З грудзей вырываліся воклічы захаплення. Ужо не чуваць скрыпак і цымбал. Віхор, які нёсся са сцэны, захапіў публіку, перайшоў у буру, шквал. Гром воплескаў, немы крык вырваўся праз сцены залы і, здавалася, лунаў пад нябёсы.

За ўсё сваё жыццё я нідзе і ніколі не бачыла такога бурнага масавага парыву ў тэатральнай зале, такога ўзрушэння, такой гамы пачуццяў, якія міжвольна вырываліся з людскіх грудзей...

(с. 89):

Пад непрыгожым тварам Змітрака Бядулі крылася надзвычай прыгожая душа. Аб чым бы ён ні гаварыў, здавалася, слухаеш журчанне ручайка перад усходам сонейка ў вясновую раніцу, адчуваеш водар маладзенькіх лісточкаў бярозы. І цяпер, калі думкі кранаюцца памяці найлепшага майго друга, я перачытваю яго "Абразкі", напісаныя ў пачатку яго творчасці, і бачу ў іх празрыстую, паэтычную, светлую душу яго.

(с. 95-100):

У першай чвэрці выпускнога класа выдалі нам невялічкія друкаваныя бланкі, у якіх трэ было адказаць на чатыры пытанні і з подпісам, завераным бацькамі ці апекуном, вярнуць у канцылярыю гімназіі. Я і напісала адказы:

1. Вероисповедание – римско-католическое.

2. Сословие – крестьянка.

3. Национальность – белоруска.

4. Родной язык – белорусский.

… Аднак падпісаць анкету Клачкоўская адмовілася.

– Што гэта за выдумкі такія? Скуль гэта ўзяліся якіясь беларусы і нейкая беларуская мова? Раз вы каталічка – значыцца і полька. Ніякай беларускай мовы не існуе. Вы ж па-польску гаворыце.

– Так, – кажу, – з вамі я гавару па-польску, з настаўнікамі ў гімназіі – па-руску, з нашай немкай – па-нямецку, дома з роду мае дзяды і прадзеды і я з бацькамі – толькі на сваёй роднай мове гаворым – па-беларуску. Рэлігійная прыналежнасць – гэта адно, а нацыянальная – зусім штосьці іншае. Французы, італьянцы па рэлігіі – каталікі, аднак палякамі сябе не называюць.

– Скуль вы, такая разумніца, ўзяліся?

– З беларускай вёскі.

– Не падпішу! Вазьміце другую картку і напішыце як належыць.

– Ну і не трэба! Такой бяды! – прабарматала я, забраўшы анкету.

… Праз некалькі дзён пасля здачы анкеты затрымлівае мяне Кацярына Платонаўна і пытае:

– Скажыце мне, галубка, якой вы нацыянальнасці?

– Беларуска.

– А родная мова ў сям'і?

– Заўсёды па-беларуску паміж сабой гаворым.

– Вы наведвалі ўрокі польскай мовы і літаратуры?

– Так, наведвала.

– Дык вось, мілая, вам не можна больш наведваць урокі, – кажа тонам нейкага жалю і смутку.

– Чаму?

– Бо гэтыя ўрокі дазволены па жаданні бацькоў толькі для вучаніц польскай нацыянальнасці.

…

– … летам я змагу самастойна іх нагнаць.

– Але і закон божы вы ўжо не маеце права адказваць на польскай мове.

– А як?

– Па-руску ці па-беларуску.

– Вось добра! – аж усцешылася я. – Буду адказваць па-беларуску.

– А падручнікі ёсць на беларускай мове?

– Не, няма. Але ж я магу на любой мове, якую ведаю, прачытаць, а расказаць па-беларуску.

– Ну, гэта ўжо дагаворыцеся з ксяндзом-капеланам, на якой мове адказваць, толькі па-польску ўжо нельга будзе.

Такое самае распараджэнне атрымала і літвінка Гэля Юрашайціс. Рашылі мы з ёй на ўроках закону божага адказваць кожная на сваёй роднай мове.

На другі дзень падзывае мяне ксёндз Мілкоўскі і прапануе перапісаць анкету. Ён, бачыце, зрабіў для мяне вялікую ласку: неўзаметку выкраў маю анкету і чысты бланк, каб я выправіла сваю памылку ў адказах аб нацыянальнасці і аб роднай мове.

– Ніякай памылкі там няма, – кажу, – я напісала так, як яно ёсць. Нашто я буду маніць?

Пачаліся спрэчкі…

– Ну добра, – кажа капелан, – хай сабе нацыянальнасць так і застанецца, але аб роднай мове абавязкова трэба пісаць “польская”, бо інакш вам на ўроках нельга будзе адказваць на польскай мове.

– А мне начальніца сказала, што я магу адказваць на сваёй роднай мове, а маніць у анкеце – грэх.

Капелан рэзка павярнуўся і пайшоў, хаваючы анкеты.

Мы ведалі, што ён ні слоўца не разумее па-літоўску. Гэля папярэдзіла нас, што будзе плясці на ўроках ўсялякую бязглуздзіцу, і пераказала нам змест свайго “адказу”, пераклаўшы нам словы і фразы, каб мы маглі сачыць за яе “адказам”.

Пачынаецца ўрок.

– Юрашайціс! – выклікае ксёндз. – На якой мове будзеце адказваць урок?

– На літоўскай.

– Прашу.

І Гэля пачынае:

– Мы дзівімся, чаму вы пайшлі ў ксяндзы. Ксяндзам жа нельга жаніцца. Няўжо вы дагэтуль нікога не пакахалі? Паглядзіце на нас, якія мы ўсе маладыя, прыгожыя, вясёлыя. Няўжо ніводная з нас вам не падабаецца? Можа б вы былі і нішто сабе хлопец, але вас псуе надта ўжо доўгі нос. Мабыць, нос і ёсць прычына таго, што вы пайшлі ў ксяндзы, бо пакахаць вас вельмі цяжка. Нос ваш, пэўна ж, перашкодзіць пацалаваць дзяўчыну – упрэцца ў твар і вуснаў вы не дастанеце…

Ну і далей у такім жа духу.

А капелан толькі ківае галавой і пацвярджае:

– Так… Так… Добра… Ага…

Лопнуць можна было ад смеху. Гэля аж пачырванела ад напружанасці, каб не засмяяцца. Плечы яе ўздрыгвалі, але-ткі да канца вытрывала.

– Ну, досыць будзе! – перарывае ксёндз і ставіць у журнал “пяць”. – А Мядзёлка на якой мове будзе адказваць?

– На беларускай.

– Я не разумею па-беларуску. – Рэзка заяўляе

– Калі вы разумелі па-літоўску, то тым болей зразумееце па-беларуску, – кажу, – бо беларуская мова належыць да сям'і славянскіх моваў, як руская і польская, і хто жыве ў нашым краі, той не можа не разумець нашай мовы.

– А я не разумею і не прыму адказу на гэтай мове. Калі так, адказвайце па-руску.

– Не, па-руску я не буду адказваць.

– Чаму ж гэта?

– Бо гэта прымус, бо гэта адна з форм нацыянальнага ўціску. Хоць і палякі знаходзяцца пад нацыянальным уціскам, аднак яны могуць вывучаць сваю мову і літаратуру, могуць вам адказваць урок на польскай мове. А чым горшыя мы, беларусы? Буду адказваць па-беларуску.

– Я адмаўляюся прымаць адказ на вашай мужыцкай мове.

– Ну і не трэба! Такой бяды! – і села на сваё месца.

Такой бяды… А бяда пачалася.

Кончылася першая чвэрць году і другая, пачынаецца трэцяя, а ў журнале ніводнай адзнакі ў мяне няма па гэтаму прадмету. Занепакоілася і начальніца.

– У чым справа? Што там у вас з ксяндзом выйшла? Чаму ён вас не выклікае?

Я ёй расказала, што ў нас выйшла. І аб тым, як расказвае ўрок Гэля.

– Чаму ён прымае адказ на літоўскай мове, не разумеючы ні слова, а па-беларуску не хоча? Гэля рознае глупства пляце яму ў вочы, і ён ставіць ёй пяцёркі, а мяне не хоча выклікаць.

– Вы разумееце, што без гадавой адзнакі па закону божаму вас нельга будзе дапусціць да экзаменаў? – гаворыць Кацярына Платонаўна.

Так, я гэта разумела, але падпарадкоўвацца яго капрызу не хацела. Гэта ўжо прымус не толькі з боку царскай улады, але і з боку польскіх паноў-эндэкаў.

– Вось найшла каса на камень, – сказала яна і пайшла ў свій кабінет.

Нашаніўцы ведалі гэтую гісторыю з анкетамі і мой канфлікт з ксяндзом Мілкоўскім.

– Трымайся, – раілі яны мне, – не здавайся! Нам трэба змагацца за свае правы. Калі не дапусцяць да экзаменаў, мы цябе не пакінем. Знойдзем сродкі і пашлем за граніцу дакончыць адукацыю. А мы тады падымем у газетах такі шум вакол гэтай справы і Мілкоўскаму так насолім, што аж чэрці яго возьмуць.

Падыходзяць выпускныя экзамены. Што будзе са мной? Дапусцяць да экзаменаў ці не? Іду з гэтым пытаннем да начальніцы. Яна моцна задумалася, барабанячы пальцамі па стале, а пасля сказала прыйсці да яе праз тыдзень.

– Прыходзь на экзамены, – кажа праз тыдзень.

Як яна там уладзіла гэтую справу – не ведаю…

*(Ад рэдактара: Натуральна, што ўрокі з выкарыстаннем такіх тэкстаў былі б вельмі цікавымі для дзетак і пакідалі б уражанне на доўгія гады. Але савецкія падручнікі такіх “небяспечных” тэкстаў пазбягалі. Там было прасеянае савецкай цэнзурай, выверанае месіва “правільных” тэкстаў, якімі і карысталіся настаўнікі ў пераважнай большасці. Трэ было мець смеласць Белакоза, каб несці такія тэксты на ўрокі!)*

Яшчэ больш багатыя рабочыя планы па многіх іншых тэмах. З такім планам можна чытаць лекцыі ва ўніверсітэце. Карыстаўся я такімі планамі толькі 21 год, бо ўжо ў 1989 годзе перастаў працаваць настаўнікам. Якія багатыя былі б гэтыя планы, каб іх пачаў пісаць у пачатку сваёй педагагічнай працы, у 1948 годзе.

Бывала, што мянялася праграма, прымушалі назвы тэмаў перастаўляць з чацвёртага класа ў пяты або наадварот. Тут часам даводзілася мяняць некаторыя матэрыялы, пытанні і інш. Амаль кожны план, нават мною, чытаецца з вялікай цікавасцю, бо ў ім закладзена часцінка нашай пазакласнай дзейнасці: ці верш вучня пра Максіма Багдановіча, ці абразок Зоські Верас пра нашага славутага Максіма, ці ліст сына Коласаўскага дарэктара Яські да Метка Палавені пра тое, як ён гадаваўся ў сям'і Якуба Коласа. Ці апісанне Кібікам Мішам (Канцавым) нашай крынічкі, якое перaклікаецца нечым з вершам Коласа “Ручэй”, ці верш Аксаны пра тату, трактарыста-механіка, а то адказ Генадзя Кісялёва пра дакументальнасць нашых высноў, што бацькі Кастуся Каліноўскага – нашы блізкія землякі, амаль суседзі і г.д.

Хіба пра ўсё раскажаш? Пакуль па-за маёй увагай засталіся сотні штрыхоў самароблай методыкі, якія ўплывалі на стан ведаў дзетак, на выхаванне ў іх нацыянальная свядомасці, патрыятызму.

Мае поспехі, поспехі вучняў выклікалі шаленства ў начальства, у некаторых настаўнікаў.

Мушу прызнацца, што часам даводзілася ісці на кампрамісы: лічу неразумным разбіваць галавой каменную сцяну нават тады, калі яна гнілая. Тут лепш выкарыстаць ломік, кірку, рыдлёўку, або абыйсці яе.

Недзе напрыканцы 60-х гадоў мяне запрасілі ў Гародню са стэндзікамі на картонных лістах па нашай музейнай тэматыцы. Зацягнуў усё гэта ў Гародню на тэлебачанне. Чамусьці перадачу

адразу давалі ў эфір: можа плёнкі не мелі ці не ўмелі запісваць. Правялі рэпетыцыю. Украінец-рэжысёр кажа:

– Мы не бачым, а нас бачаць. Прадстаўнік абкаму загадаў стэнд пра Ларысу Геніюш зняць з перадачы.

– Вы хіба жартуеце?! Ларыса Геніюш вучылася ў нашай школе, сустракалася з нашымі вучнямі, яе дзед пахаваны ў Гудзевічах.

– Не здымеце гэтага стэнда – перадачы не будзе!

– Не буду я здымаць такі цікавы матэрыял.

– Вы сарвеце тэлеперадачу, мяне з працы выганяць за тое, што не ўгаварыў вас, і вам не паздаровіцца, – пужае рэжысёр.

Я згадзіўся зняць стэнд "Ларыса Геніюш".

Пачалася тэлеперадача. А ў экспазіцыі быў стэнд пра Элізу Ажэшку. Калі ў перадачы дайшлі да гэтага стэнда, то я кажу: "А гэта Ларыса Геніюш". І выказаў усё пра апальную паэтэсу. Скончылася перадача. Зайшлі ў кабінет рэжысёра. Ён маргнуў мне і моцна пацісну руку, а сам пачаў пытацца, як я буду дабірацца да хаты.

Я зразумеў, што размаўляць пра Ларысу Геніюш тут забаронена: сцены маюць вушы. Праўда, гадоў тры не паказвалі па тэлебачанні нашага музея, а пазней забыліся.

Памятаю, у 1975 годзе выклікае мяне ў кабінет загадчык Мастоўскага РАНА Рында Мікалай Іванавіч і кажа:

– Вы там в своём музее поразвешивали портреты Ларисы Гениющ, разместили её письма, книги. Всё это надо немедленно убрать.

– Што вы, яна ж вучылася ў нашай школе, – спрабую пярэчыць.

– Не снимете – закроем музей.

– Добра, – кажу, – здымем, толькі дайце час сабраць матэрыялы для новага стэнда.

– Снимайте сегодня же! – злуе Рында.

– Знімем стэнд, будзе пустое месца. Людзі запытаюцца: "Чаму тут пустое месца?". Што я ім адкажу?

– Вы скажите, что стенд свалился, стёкла разбились.

– Не буду я лгаць, – пярэчу яму.

– Так вы там не тяните с новым материалом, – загадаў Рында.

Паехаў я да хаты ды думаю, як тут ашукаць іх.

Чую па радыё, што ў космас паляцеў беларус Пётр Клімук. Ага! Гэта наш ратунак.

Рыбалка Аленка, вучаніца 8-га класа, выткала Клімуку гальштук, а на адваротным баку наткала: "Пятру Клімуку" і дату ягонага першага палёту. Раніцай заказной бандэроллю па пошце гальштук паехаў у Зорны гарадок. А я патаемна ад усіх паслаў касманаўту зборнік Ларысы Геніюш "Невадам з Нёмана" з просьбай падпісаць вучням Гудзевіцкай сярэдняй школы. Праз нейкі тыдзень ці два атрымліваем ліст ад Клімука, ягоную фатаграфію з аўтографам і зборнік Ларысы Геніюш з аўтографам: "Гудзевіцкай СШ ад Клімука. З найлепшымі пажаданнямі П. Клімук. 6.08.75г."

Мы пра гэта напісалі ва ўсе часопісы і газеты Беларусі, далі на радыё і тэлебачанне. А пад фатаграфіяй Ларысы Геніюш змясцілі здымак П. Клімука, ягоны ліст, капэрту, зборнік. Больш ніхто ніколі нават не заікнуўся, каб мы знялі стэнд Ларысы Геніюш.

У Савецкім Саюзе лічылася, што на з'ездах КПСС прымаюцца самыя важныя рашэнні. Таму пасля кожнага з'езду настаўнікаў прымушалі ці не на кожным уроку выкарыстоўваць матэрыялы з'езду. Мне шкада было траціць на гэта час урока, але лішніх праблем не хацелася. Таму, я купляў кнігі "Матэрыялы ХХ (ці іншага) з'езду" і ў кожным класе на кожны ўрок планаваў, што выкарыстаць. Прыходзіць дырэктар на ўрок, а я гляджу, што на гэты ўрок запланавана ў мяне. І выдаю патрэбнае дырэктару. Яны ніколі не маглі сказаць, што я на ўроках не выкарыстоўваю матэрыялаў з'езду ці Канстытуцыі. І сачыў, каб пры разборы ўрока кантралёры запісвалі пра гэта. На іншых уроках вучні ніколі не чулі ад мяне ніводнага слова пра з'езд, а тут – калі ласка. Так трэба было круціцца, каб не зачынілі музей, не выгналі з працы.

Мне аднойчы на допыце намеснік начальніка Гарадзецкага КДБ сказаў:

– Вы под влиянием Ларисы Гениюш стали враждебно относиться к Советской власти. Раньше вы таким не были.

У музеі яны бачылі, у які бок я гну, што прапагандую, якому Богу малюся.

Страшна было брацца за выданне “Праменьчыка”, напісанне вучнямі вершаў стварэнне музея, але каб выхаваць вучняў патрыётамі, мала толькі гаварыць пра патрыятызм. Трэба нешта рабіць, ствараць.

Вядома, найбольшы поспех быў у вучняў 11 класа, але ж хацелася далучыць усіх дзетак да прыгожага пісьменства і ў малодшых класах. Бяда ў тым, што я сам не лірык, а матэматык, а можа гэта і добра, бо мне нават слабы верш здаваўся шэдэўрам, бо адчуваў, што і такога не складу.

У чацвёртым класе пачынаў складанне вершаў з вучнямі амаль з 1 верасня. Казаў дзецям:

– Пачалі новы навучальны год. Ён прабяжыць хутка. Праз шэсць месяцаў будзе 8 Сакавіка, свята мамаў. Што вы ім рыхтуеце для падарункаў?

– Куплю хустачку або цукерак.

– А дзе грошай возьмеце? – цікаўлюся ў іх.

– Дасць тата.

– То атрымліваецца, што гэта татаў падарунак. А што вы прапануеце матулі ад сябе, сваё?

– Не ведаем.

– Вельмі добрым падарункам для матулі быў бы верш, але як яго скласці? Давайце паглядзім, як гэта рабіў Якуб Колас. Разгарніце “Родную літаратуру” на старонцы трэцяй. Тут верш “Ручэй”. Што цікавага пра ручэй кажа Якуб Колас?

– Ён ручэй называе срэбразвонным, – сказала Таня.

– Дык якое ж слова тут найбольш трапна, прыгожа распавядае пра ручэй? Самае цікавае слова тут срэбразвонны, бо яно паведамляе нам, што ручэй звініць, нібы срэбра, вельмі прыгожа. У пачатковых класах вы ўжо знаёміліся з даданымі членамі сказа. Хто ведае, які гэта член сказа.

– Срэбразвонны – гэта азначэнне.

– У мастацкай літаратуры такое азначэнне называюць эпітэтам. Несціханы, густы – гэта эпітэты да назоўніка спеў.

– У другой страфе паэт ужыў вельмі трапнае параўнанне. Знайдзіце яго, што тут з чым параўноўваецца?

– Тут вярба параўноўваецца з матулькай.

– Ці падабаецца вярба аўтару?

– Вядома, вельмі падабаецца: ён яе параўноўвае з матулькай. А што можа быць мілей за матулю!

– За вакном класа расце вялізная ліпа. Яе ў 1903 годзе пасадзіў настаўнік Гудзевіцкай школы Карп Герасімавіч Зянюк. Хто можа прыдумаць параўнанне да назоўніка ліпа?

– Ліпа як стог.

– Ліпа як матуля.

– У Якуба Коласа пасля слоў “як матулька” стаіць коска, бо гэта параўнальны зварот, а мы на дошцы коскі не паставілі, бо ў выразе “ліпа як стог” слова стог з’яўляецца выказнікам, а выказнік ад дзейніка не можа аддзяляцца.

У гэтым вершы шмат цікавых выразаў, слоў, якія па-мастацку абмалёўваюць прадмет.

Глядзяцца кусты, падыходзіць мурог, хмурынка... зазірне ў ручаёк, гучным смехам дрыжыць, сярдзіта бубніць ды інш. Такі прыём, калі ўласцівасці аднаго прадмета пераносяцца на другі, называецца метафарай, бо хіба ж можа глядзець куст, смяяцца ці сярдзіта бубнець ручэй, гэта нават не звычайная метафара, а ўвасабленне, аднак сёння мы чапаць больш метафар не будзем.

Цяпер давайце прыдумаем эпітэт да слова МАМА. Удалыя фразы можна будзе выкарыстаць у вершах пра маму, якія вы складзеце ёй да 8-га Сакавіка.

– Ласкавая мама, – прыдумала Міра.

– Чулая маміна ласка, – сказала Таня.

– Ды гэта ж радок для верша. Тут Таня прыдумала эпітэт да назоўніка ЛАСКА. Запішы гэты радок ў літаратурны сшытак, каб не забыцца, бо выраз каштоўны. Ты сёння чацвёрты раз даеш выдатны адказ. Стаўлю табе пяцёрку ў класны журнал і ў дзённік.

– Мама ласкавая, чулая, вясёлая, мілая, – аж чатыры эпітэты прыдумала Іна.

– А хто можа прыдумаць параўнанне да слова мама?

– Матуля мая, вы паверце,

Ласкавая, быццам вясна...

– Марыначка! Ды гэта ж выдатныя два радкі для верша пра маму. Ты першая ў класе сказала аж два радкі. Стаўлю табе выдатную адзнаку. Давай дзённік.

Пасля гэтага пасыпаліся прапановы радкоў да верша пра маму. Я паабяцаў, што кожнаму, хто складзе верш ці напіша нарыс пра матулю, ці хоць маленькі абразок прозай, пастаўлю пяцёрку ў запасе. Як толькі складзеце чатыры радкі верша, прыносьце на заняткі гуртка ці пакажыце мне свой пачатак верша перад урокам ці пасля ўрока або нават на ўроку, атрымаеце парады, дапамогу. Я сам вершаў пісаць не ўмею, але ведаю, як іх пісаць. Распавяду вам, што добрага ў вершы, якія недахопы. А недахопы абавязкова будуць. Нават у сапраўдных майстроў слова крытыкі знаходзяць шмат хібаў.

На наступным уроку чацверакласнікі атакавалі мяне сваімі вершамі. Нават калі ў вершы не было ні складу, ні ладу, я імкнуўся знайсці ў ім метафару, ці трапную рыфму, ці хоць эпітэт і расхваліць твор, а пасля гэтага асцярожна выказацца пра ўсе недахопы. Калі з часам пераконваўся, што паэта з вучня не атрымаецца, то раіў перайсці на прозу: “У цябе такія добрыя сачыненні атрымліваюцца! Паглядзі, Янка Брыль не піша вершаў. Чаму? Ён вельмі патрабавальна ставіўся да свае творчасці. Яго не задавальнялі напісаныя вершы, таму перайшоў на прозу. А які празаік! Лепшы ў Беларусі! Я табе параіў бы пісаць прозай”.

Пасля такой размовы вучань ганарыўся, што піша прозай. Ён не адчувае сябе горшым. Вучыў пісаць вершы не ўсіх вучняў, а толькі тых, у каго штосьці атрымлівалася. Перад урокам, пасля ўрокаў, на перапынках звычайна вучань і я сядалі на ягоную парту і аналізавалі верш. Заўсёды ў пачатку разбору я імкнуўся знайсці што-небудзь каштоўнае ў вершы: ці рытм, ці рыфму, ці выяўленчыя сродкі мовы, ці нават захапляўся важнасцю тэмы, надзённасцю ідэі (патрыятычныя вершы). Пасля гэтага ішла добразычлівая крытыка. Бывала, раскрытыкую верш, а вучань адыходзіць радасны: як жа, ён знайшоў такую патрэбну тэму. Часта да кансультацыі падсядаў яшчэ хто-небудзь з дзетак, каб падвучыцца на памылках сябра. Тады я быў менш катэгарычны, знаходзіў у творы больш станоўчага, сёе-тое з крытыкі пераносіў на наступныя заняткі.

Вучні, якім вершаскладанне даецца лёгка, не любяць даводзіць верш да адпаведнай “кандыцыі”. Яны прыносяць новыя і новыя творы. Я тлумачу, што сыры верш нікому не патрэбны, ён толькі ганьбіць аўтара. Трэба скончыць адзін верш, а тады прыносіць наступны. А пакуль давай шліфаваць гэты твой удалы верш.

Аднойчы дырэктар Луненскай сярэдняй школы Сямак пытаецца:

– Калі вы паспяваеце пісаць столькі артыкулаў: ва ўсіх газетах і часопісах друкуюцца вашы вершы, артыкулы, літаратурныя даследаванні.

– У гэтым годзе я не надрукаваў ніводнага артыкула ці верша.

– Там подпісы вашых вучняў, але ж я ўпэўнены, што такія даследаванні можа напісаць толькі настаўнік. У нашай школе каля пяцісот вучняў, а ў вашай у два разы менш. У нас ніхто не піша, а ў вас – усе. Чаму?

– У мінулым годзе наш шосты клас скончыла Ягнешка Аленка. Цяпер яна вучыцца ў вашай школе, бо туды пераехалі яе бацькі. Яна свае вершы прысылае ў нашу школу, і мы друкуем іх у “Праменьчыку”, пасылаем з яе згоды ў газеты, а Вашы настаўнікі нават не ведаюць, што яна піша вершы. Запытайцеся ў яе, чаму яна не паказвае сваіх твораў настаўнікам.

Праз гадоў чатыры сустракаю Аленку і пытаюся, ці цікавіўся Сямак, чаму ты не паказвала сваіх вершаў выкладчыкам беларускай літаратуры.

– Так, пытаўся.

– Што ты сказала?
– Сказала, што не ведаю.
– А ўсё ж, чаму ты не паказвала сваіх вершаў Вайтовічу?
– Не ведаю.
– Дык ты ніколі і не паказала свойго твора настаўніку?
– Раз паказала.
– Што ён сказаў?
– Сказаў, што дрэнна.
– Што дрэнна?
– Усё дрэнна.

Не дзіўлюся, што пасля такой "дапамогі" дзяўчынка больш ніколі да яго не звярталася.

Нават у самым найгоршым вершы ёсць нешта добрае: ці патрэбная, надзённая тэма, ці актуальная выснова, ці ўдалая метафара або параўнанне, ці эпітэт, а можа багатая і дакладная рыфма або бездакорны рытм.

У такім выпадку я акцэнтую ўвагу на станоўчым, шчыра захапляюся поспехам дзіцяці, а пасля гэтага асцярожна раскрываю недахопы.

– У цябе ў другім і чацвёртым радках рыфмуюцца дзеясловы. Гэта нічога страшнага, бо дзеяслоўная рыфма сустракаецца і ў Купалы, і ў Пушкіна, але ж іх чапаць нашы крытыкі не асмельваюцца, а вось, калі ў вучня знойдуць такое, то паўгода будуць перамываць костачкі дзіцяці. Адзін дзеяслоў можа застацца, а другі замяні назоўнікам ці іншай часцінай мовы – і размовам канец.

Вучань сваім недахопам амаль ганарыцца, бо такія недахопы былі нават у Купалы ды Пушкіна. "А вось тут ты ўжыў дыялектнае слова. Яно вельмі прыгожае, ёмкае. Хто ведае, можа з твае лёгкай рукі яно стане літаратурным. Гэта ж трэба! У нашу багатую і прыгожую мову табе можа ўдасца ўзаконіць новае слова. Яно нават у дыялектных слоўніках не сустракаецца. Такая прыгажосць! Такі сэнс!"

"У асобных радках верша не аднолькавая колькасць стоп. Гэта дапускаецца, калі радкі з меншай ці большай колькасцю стоп паўтараюцца заканамерна, а так нельга, што ў адным радку дзве стапы, а ў другім тры, а дзесьці нават чатыры. Такое не дапускай. Мушу пахваліць цябе за бездакорны анапест. Адна бяда: у радках розная колькасць стоп".

Недахопы я называю, але стараюся побач паказаць станоўчае або нават таленавітае. Дзіця пасля такой кансультацыі выходзіць з упэўненасцю ў сваёй таленавітасці. Магчыма, памаленьку гэтай таленавітасці будзе змяншацца ў перакананні вучня, але ён ужо пераканаецца, што верш патрабуе бясконцай працы, бясконцага шліфавання. Ён недахопы ўспрымае як непазбежнае: яны ж бываюць нават у геніяльных паэтаў.

Вельмі ўдалыя вершы, надрукаваўшы на машынцы, хлопчык ахвяруе матулі ці тату, а ў іх прашу, каб яны ганарыліся талентам дзіцяці, чыталі яго суседзям, сябрам, сваякам. Змяшчаем такі верш у нашым "Праменьчыку", пасылаем у рэдакцыю. Вялікі гонар, калі твой твор чытае ўся Беларусь ці хай нават толькі раён. Гэта таксама не мала. За ўдалы верш стаўлю вучню пяцёрку ў запасе. Гэта такая моцная пяцёрка, якую вучань можа запатрабаваць на любым уроку. Уявім, што вучань адказаў добра. Ён кажа:

– Не стаўце мне, калі ласка, чацвёрку, а пастаўце пяцёрку з запасу. Такое здаралася надзвычай рэдка, бо той, хто мае пяцёркі ў запасе, заўсёды адказвае на пяцёрку. Добрая праца павінна добра аплочвацца, а для вучня адзіная плата – гэта выдатная адзнака.

Выдаваць свой часопіс мы вырашылі ў 1965 годзе, адразу ж, як пачалі пісаць вершы, апавяданні, нарысы, драматычныя творы, збіраць мясцовы фальклор, апісваць этнаграфічныя экспанаты, тлумачыць тапонімы і мікратапонімы, знаходзіць звесткі з гісторыі Гудзевічаў, запісваць дыялектызмы, друкаваць лісты пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, былых нашых вучняў. Да траўня 1966 г. мы сабралі крыху матэрыялу і ў пачатку чэрвеня ў адзін дзень частка выпускнікоў садзіла лес каля школы. Ганаруся, што і я працаваў разам з імі. Трэці радок дрэў з правага боку – мой. І ў гэты ж дзень пад кіраўніцтвам Веры Ігнатаўны Белакоз вучні з розных класаў пераплялі "Прамень-

чык”. Пераплёт рабіўся на стагоддзі, бо прайшло ўжо 39 гадоў, а “Праменьчыкі” не распадаюцца. Першы нумар меў толькі 36 аркушаў фармату 30×21 см, другі амаль такога ж аб’ёму, а трэці разоў у сем аб’ёмнейшы, а пазней кожны нумар меў па 400-600 машынапісных аркушаў. У апошні год маёй працы ў Гудзевіцкай школе выдалі чатырнаццаты нумар. Наклад кожнага нумару – 4 асобнікі.

Камплект з усіх 14 нумароў застаўся ў кабінеце беларускай літаратуры Гудзевіцкай сярэдняй школы, камплект захоўваецца ў Гудзевіцкім дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музеі, трэці – у мяне, чацвёрты – у чытачоў.

Мне аднойчы Вераціла Міхась сказаў:

– Што вы вытвараеце. Я сёння ўсю ноч чытаў трэці нумар “Праменьчыка”. Калька дрэнная, часта амаль не прачытаць асобных слоў, папера то мелаваная, то са сшыткаў, то газетная, друкуюць вучні 4-10 класаў, а таму сустракаюцца памылкі.

– А чаму вы ўсю ноч чыталі?

– Бо цікава, – прызнаўся Вераціла.

– Вось для гэтага мы выдаем “Праменьчык”. Пройдуць стагоддзі, а людзі змогуць даведацца, чым жылі ў XX стагоддзі вучні, настаўнікі, як і пра што думалі. А гэта важна. Калькі я яшчэ ні разу не знайшоў у магазінах, жабрую ва ўстановах. Хто дасць два-чатыры лісты новай, бо ў іх калькі заўсёды не хапае, а некаторыя аддаюць ужываную кальку. Мы на тых жа лістах калькі друкуем па 50-80 аркушаў для “Праменьчыка”, таму чытаецца кепска. Паперы зноў жа ў магазінах вясковы пакупнік знайсці не можа. Жабрую ў гарвыканкаме. Машыністка старшыні райвыканкаму ахвяруе дзесяць, а калі й трыццаць аркушаў мелаванай паперы, а загадчык склада рэдакцыі газеты за бутэльку дасць аркушаў дзвесце газетнай паперы, а калі няма ніякай, то расшываем сшыткі, закладаем двайныя аркушы ды друкуем. Друкуючы матэрыял для “Праменьчыка”, я забіваў адразу трох зайцоў:

1. Друкаваць мелі права толькі тыя вучні 4-10 класаў, якія па беларускай мове вучыліся на 4-5. Друкаваць для “Праменьчыка” – гонар. У школе ў той час было каля 230 вучняў, а друкароў было толькі каля 80: сюды не прымаліся вучні пачатковых класаў, а некаторыя друкавальшчыкі выбывалі на конкурснай аснове.

2. Вучні, друкуючы, даведваліся шмат новага: як афармляецца аркуш, дзе размяшчаецца чырвоны радок, чаму выбракоўваюцца роднасныя словы, якім знакам паказаць наяўнасць чырвонага радка, дзе размясціць устаўку, як пераносіць і шмат чаго іншага.

3. Дзеці вучыліся друкаваць на машынцы, якая тады лічылася апошнім дасягненнем тэхнікі.

4. У “Праменьчыку” ўвекавечвалі не толькі прозвішчы аўтараў, але і імёны ды прозвішчы друкароў. Гэта таксама вялікі гонар для вучня.

5. Калі вучань не падрыхтуе ўрока, то просіцца друкаваць. Я разумеў гэта і імкнуўся такога вучня выклікаць на наступным уроку. Дзеці гэта ведалі і рыхтаваліся да адказу.

Па гэтых прычынах дабраахвотных друкароў заўсёды хапала.

Для мяне было вельмі важна дабіцца, каб кожны вучань меў сваю думку і ўмеў яе выказаць. Дабіваўся, каб дзеці правілы не зазубрывалі, а разумелі іх і тлумачылі сваімі словамі: зазубранае забудзецца, а засвоеннае, зразумелае застанецца часам нават на ўсё жыццё.

Памятаю, прыйшоў да мяне на ўрок беларускай літаратуры дырэктар школы Радзевіч Язэп Ігнатавіч. Гэта быў разумны і ўдумлівы педагог.

Я пачаў урок з тлумачэння новай тэмы. “Ідэя трылогіі Якуба Коласа “На ростанях”.

Вы прачыталі трылогію (дабіваўся каб яны ведалі сюжэт, тады з імі легка працаваць). Задаваў частку мастацкага твора прачытаць, а назаўтра па прачытаных раздзелах даваў усяму класу пытанні, яны адказвалі пісьмова. У мяне вучні не спісвалі. Таму у школьнай бібліятэцы бралі амаль выключна беларускую літаратуру, бо кожную чвэрць я вёў гутарку па прачытаных кнігах для пазакласнага чытання. Бібліятэкарка Шылкіна Лідзія Васільеўна злавала:

– Нечево белокозовщину погонять: берите книги, которые даю, и уходите.

Відаць, яна настройвалася адпаведнымі органамі, бо аднойчы, у час перапынку, калі ў калідоры першага паверху сабралася шмат вучняў, у маёй прысутнасці яна крычала:

– Белокоз Алесь Николаевич во время войны расстреливал партизан!

Адно шчасце, што я тут нарадзіўся, вырас і працую. Таму людзі толькі пасмяяліся з гэтай заявы, аднак мне было не да смеху: кожная навалач магла абразіць, абвінаваціць, зганьбіць. Мая дзейнасць ім не падабалася.

Але вернемся да ўрока. У прысутнасці дырэктара пытаюся ў вучня: “Як вы лічыце, якая галоўная думка трылогіі “На ростанях”?

Удумлівы Віталік Багдан заявіў:

– Саханюк, Бацяноўскі, айцец Кірыл, настаўнік Хрыпач не імкнуцца дапамагаць народу: імі кіруе імкненне да задавальнення сваіх жаданняў і пагарда, нават нянавісць да вольналюбівых людзей. Яны не прыносяць карысці народу, нават шкодзяць яму. Яны дэградуюць, апускаюцца, становяцца на шлях п’янства, даносаў, сквапнасці. Значыць, занядбанне інтарэсаў народу спустошае чалавека, вядзе яго да апускання, да нянавісці. А вось Лабановіч, Тукала, Садовіч імкнуцца працаваць добра, думаць пра тое, што нешта ў жыцці трэба мяняць. Яны становяцца актыўнымі змагарамі за народнае шчасце. Няхай пакуль яны асуджаны, вызвалены з працы, вымушаны туляцца, але будучыня за імі, бо абарона інтарэсаў народу ўзвышае чалавека, прымушае добра вучыцца, працаваць, быць сумленным. Кожнаму варта ісці па гэтым шляху.

– Ды ты, браток, нам лекцыю прачытаў. Я поўнасцю згодны з тваёй думкай. І хоць гэта сёння новая тэма, але ты паказаў веданне сюжэту, разуменне літаратурных герояў, даў трапную характарыстыку многім з іх. Стаўлю табе выдатна.

– Кожны раз, скончыўшы чытаць мастацкі твор, мы думаем пра літаратурных герояў, робім свае высновы. Магчыма, хтосьці з вас можа вызначыць іншую ідэю.

Лідачка ўжо паспела прачытаць у падручніку, што галоўная думка ў трылогіі, адзіны правільны шлях абрала РСДРП. Менавіта, камуністы прывядуць народ да шчаслівага жыцця. Гэта даказваюць высновы Галубовіча.

– Дзеткі, Лідзіна ідэя супадае з ідэяй трылогіі, выкладзенай ў падручніку. Таму мы з гэтай думкай павінны лічыцца. Урэшце, аўтар падручніка мае права на сваю думку. Ён яе і выказаў. Так і мы павінны адказваць, стаўшы абітурыентамі. Аднак і першая думка вельмі прывабная. Яе таксама нельга адмаўляць. І калі вы дакажаце, што абарона інтарэсаў народу ўзвышае чалавека, то гэта пакажа глыбокае разуменне вамі твора, але нядрэнна было б выказаць і думку аўтара падручніка: яна ж афіцыйная. Выкладчык-экзаменатар захоча пачуць ад вас і гэты варыянт ідэі. Добра, каб вы маглі выказаць і думку Віталя, і думку, выкладзеную ў падручніку… А можа ёсць і іншыя думкі?

Сяргей, які быў закаханы без узаемнасці, сказаў:

– Сапраўднае каханне таксама ўзвышае чалавека, бо яно прымушае кожнага стаць лепшым. А дабрыня і праўдзівасць – гэта вельмі добрыя рысы. А як Лабановіч ставіцца да дзяўчат! Ён паважае іх, шануе: для яго Ядвіга – гэта сама дасканаласць. Мне здаецца, што ў час маладосці Якуба Коласа і каханне было чысцейшае, свяцейшае. Можа гэта не галоўная ідэя, але, прачытаўшы трылогію, можна ўбачыць, якімі прыгожымі могуць быць узаемаадносіны паміж закаханымі.

У ходзе ўрока я некалькі разоў падымаў і Лідачку, і Сяргея, і ў канцы ўрока за актыўнасць, за адказы з месца паставіў і ім пяцёркі.

Разбіраючы ўрок, Язэп Ігнатавіч дзівіўся:

– Трое вучняў далі зусім розныя адказы на адно і тое ж пытанне. І ўсе атрымалі пяцёркі. То нехта з іх памыліўся. Чаму ў матэматыцы заўсёды двойчы два роўна чатыром?

– Матэматыка – навука дакладная, а літаратура – гэта роздум, само жыццё, філасофія. Вось я вам паказваў акуляры, а вы падумалі…

– … што і мне трэба купляць, бо ўжо дрэнна бачу.

– А мне жонка кажа: “Без акуляраў ты маладзей выглядаеш”. А я падумаў: “Трэба тэрмінова мяняць акуляры, бо яны мне ўжо заслабыя”.

Вы бачыце: тры чалавекі і тры розныя думкі пра акуляры. Так і павінна быць.

Чаму я нікому з іх не знізіў адзнакі? Першы вучань выказаў тую ідэю, якую я ім навязваў у ходзе азнаямлення з сюжэтам. Гэтага не заўважылі вучні, але я на сёмым небе, што дзеці думаюць правільна: гэта і ёсць галоўная ідэя твора.

Лідачка выказала тую думку, якая выкладзена ў падручніку. Я не маю права за гэта знізіць ёй адзнаку. Ад абітурыентаў пры паступленні ва ўніверсітэты будуць патрабаваць менавіта гэтую ідэю: яна афіцыйная. Гэта зразумелі вучні. Толькі самыя прынцыповыя на ўступным экзамене выкажуць і першую і другую думку. Не думаю, што гэта можа ім нашкодзіць, бо экзаменатары павінны зразумець, што вучань ведае і сапраўдную ідэю твора, і навязаную падручнікам, значыць, гэта разумны чалавек.

Я не згадзіўся з думкай Сяргея, але цешуся, што ён пайшоў сваім шляхам. І ягоная думка мае права на існаванне. Быў бы я экзаменатарам, то можа запытаўся, ці можна тут вызначыць іншую ідэю, можа нават сам паказаў бы, што імкненне Лабановіча, Тукалы, Садовіча і іншых настаўнікаў служыць справе вызвалення народу, узвышае іх, што ў жыцці трэба браць прыклад з іх, але ацаніў бы і тое, што ў Сяргея адметная ад іншых думка. Калі я аднаму, другому зніжу адзнаку за тое, што не згодзен з ягонай высновай, то адаб'ю гэтым ахвоту выказвацца ва ўсіх вучняў.

Вядома, калі вучань пачне адказваць, што Бацяноўскія патрэбныя, бо гэта апора дзяржавы, то стараўся б пераканаць яго ў адваротным, але калі б ён пры гэтым паказаў выдатнае веданнне сюжэту, то адзнакі яму не знізіў бы. Я даваў бы яму кнігі, якія паказваюць агіднасць стукацтва, пастараўся б выхаваць з яго сапраўднага інтэлігента-патрыёта, спрачаўся б з ім, але зніжаць адзнаку за погляды нельга.

Дырэктар шмат у чым пагадзіўся са мной. Мушу прызнацца, што ў маёй педагагічнай дзейнасці хапала выпадкаў нязгоды з начальствам, здаралася, што і вучні не згаджаліся са мной.

Калі выбіралі старасту класа, то я заўсёды дабіваўся, каб было некалькі кандыдатур, бо якія ж гэта выбары, калі ёсць толькі адзін кандыдат. Часам нават прапаноўваў неадпаведнага вучня ў старасты, каб дзеці пераканаліся, што яны лепшую кандыдатуру прапанавалі і выбралі. Пазней, у выпадку якойсьці правіны з боку мае кандыдатуры, я хваліў вучняў, што яны не падтрымалі майго кандыдата. Хоць у тых умовах цяжка было разбудзіць самастойнасць, пратэст, але я да гэтага імкнуўся.

*(Ад рэдактара: Папракаюць Ельцына, Краўчука і Шушкевіча, што яны разбурылі Савецкі Саюз. Дык не ж! Тром чалавекам паваліць такога калоса, хай сабе й глінянага, не пад сілу. Савецкі Саюз разбурылі вось такія Белакозы.)*

Яшчэ трэба было рабіць так, каб гэтага не заўважылі настаўнікі-стукачы, каб не данеслі ім майго метаду выхавання тыя вучні-стукачы, якія з гэтымі "камуністамі" пілі гарэлку, курылі, вучыліся лаяцца па-руску.

І ўсё ж даносы паступалі, бо калі б не гэта, то чаму ж так уз'еліся ўлады на маю методыку, на мае рабочыя планы, на "Праменьчык", на стварэнне музея, на перапіску з патрыётамі?

Яшчэ хочацца маральна падтрымаць настаўнікаў, якіяканчалі інстытуты завочна. Якасць працы настаўніка вызначае не чырвоны дыплом, не вучоба на стацыянары, а старанннасць, працавітасць, сумленнасць, патрыятызм, эрудыцыя...

Я ўсё жыццё адчуваў сябе не ў сваёй талерцы, бо ў душы заўсёды заставаўся матэматыкам. Філолагам стаў толькі таму, што так жорстка камуністычнымі ўладамі забівалася беларуская мова. Мне аднойчы былый мой вучань, зараз інжынер Кібік Міхась сказаў:

– Ну чаму вы нас не вучылі матэматыцы. Калі наша выкладчыца пайшла ў дэкрэтны адпачынак, а яе замянялі вы, то я, троечнік, стаў выдатнікам па геаметрыі. Вы, бывала, хуценька на дошцы падрыхтуеце чарцёж, растлумачыце доказ тэарэмы так, што ў хаце вучыць няма патрэбы, а яна ўсё нешта на дошцы піша, заглядаючы ў сшытак, і пры гэтым мармыча штосьці. Тады сатрэ з дошкі і запісвае заданне. Я перастаў разумець, чаго ад нас хочуць і зноў стаў троечнікам. Хоць адчуваў, што матэматыка мяне захапляе, але ўрокаў не чакаў, не цешыўся, што хлопцам дапамагу, што пяцёрку атрымаю. Выкладчыца ставіла адзнакі не за веды, а за бадзёрую гаварыльню.

Хоць не адчуваў сябе філолагам, але так здарылася, што мяне ў Мастоўскім раёне абралі кіраўніком раённай секцыі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры. У нас мерапрыемствы праходзілі так, што на нашу секцыю ўцякалі гісторыкі, дырэктары школ, нават цэлыя секцыі.

Мы, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, сустракаліся з Аляксеем Карпюком, Сяргеем Грахоўскім, ездзілі па мясцінах Якуба Коласа і Янкі Купалы ў Менску, былі ў Смольні. Тады, яшчэ на пачатку 70-х, настаўнікі і вучні сустракаліся з Нілам Гілевічам, а ў Вільні з Зоськай Верас, Лявонам Луцкевічам, Пятром Сергіевічам ды іншымі вядомымі асобамі. Былі ў Кушлянах, у Жупранах. Калі райкам партыі загадаў вызваліць мяне ад кіраўніцтва секцыяй, то настаўнікі аднагалосна выказаліся супраць таго, каб прызначыць на маё месца жонку другога сакратара райкаму партыі. Прагаласавалі, каб я далей кіраваў секцыяй. Тады я паабяцаў, што буду намеснікам, будзем далей запрашаць пісьменнікаў-патрыётаў, ездзіць па літаратурных мясцінах. Нават, калі праводзілася секцыя ў Гудзевіцкім музеі (1980 г.), то мне новы кіраўнік секцыі не дазволіла распавесці пра стварэнне музея і не дала слова. Толькі тады, калі нейкае пытанне не маглі вырашыць, то дазвалялі мне выступіць. І маё меркаванне спыняла спрэчкі. Таму я не адчуваў, што скончыў інстытут завочна, што ў душы не філолаг, а матэматык. Вопыт мае працы абагульняла і Міністэрства, і аблана. Вучыўся я і ў школе, і ў інстытуце не для адзнак. Таму і ў атэстаце, і ў выпісцы з дыплома троек намала менш, як пяцёрак.

Усё залежыць ад працавітасці чалавека, ад адданасці справе, якую робіць чалавек.

Дарагія педагогі-завочнікі, вы такія ж або нават лепшыя спецыялісты за тых, хто вучыўся стацыянарна. Чалавек, які вучыцца завочна, прытым працуючы ў школе, ведае, які матэрыял яму патрэбен для працы, а які – абы здаць залік. Таму настаўнік, які атрымаў адукацыю завочна, наўрад ці саступае стацыянарніку. Чамусьці так здарылася, што сярод маіх знаёмых большасць заслужаных настаўнікаў Беларусі – былыя завочнікі. У настаўніцкай справе ўсё залежыць ад чалавека.

Мая методыка ў некаторых педагогаў выклікае пярэчанні.

– Пры такой методыцы я буду працаваць без выхадных, – заяўляе выкладчык М.

– Так, мая методыка патрабуе ад настаўніка шмат працы, асабліва першы месяц, аднак з кожным тыднем, месяцам, годам працаваць па ёй усё лягчэй.

Яшчэ перавага мае методыкі і ў тым, што настаўнік атрымлівае шмат добрых эмоцыяў, а гэта працу ператварае ў адпачынак: вы бясконца цешыцеся з поспехаў вучняў.

Добрыя эмоцыі станоўча ўплываюць на здароўе.

Урэшце, правяраць работы, у якіх няма памылак, значна лягчэй, прыемней і хутчэй.

– Цяпер тэсты патрабуюць новай методыкі, – кажа мне М.

– Дык гэта і ёсць тая методыка, якая патрэбна для тэстаў. Толькі вы да тэстаў рыхтуеце вучняў безсістэмна, а тут кожны параграф дае адказы на многія тэсты. Гэта трэба падкрэсліваць, нават зачытваць патрабаванні тэстаў да гэтага правіла. Вядома, варта папярэдзіць вучняў, што ў іншых тэстах не такія пытанні да гэтага параграфа, але мы дамо адказы на ўсе магчымыя тэсты.

Настаўнік Б. кажа:

– Цяпер у цэнтр увагі ставіцца духоўнае выхаванне вучняў.

– А як вы выхоўваеце духоўнасць дзетак? – пытаюся.

– І словам, – прагучаў адказ.

– Раскажыце, калі ласка, як вы словам выхоўваеце духоўнасць дзетак?

Нічога сказаць ён не мог, а ў маёй методыцы і перапіска з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, і збіранне фальклору, этнаграфіі, дыялектызмаў нашага краю, і напісанне вершаў, апавяданняў, драматычных твораў, расшыфроўванне тапонімаў, і праца па ахове прыроды, і збіранне экспанатаў, і выданне свайго часопіса “Праменьчык”, і многае іншае.

Але нямала і тых настаўнікаў, якія пераймаюць штосьці з майго досьведу, дзякуюць, дзеляцца сваім роздумам у лістах ці гутарках. І я ўдзячны ім за іх роздум, за іх творчую працу, бо ўсё гэта на карысць дзецям, на карысць Бацькаўшчыне.



***Белакоз Алесь*** *(11.09.1928, в. Ляткі Ваўкавыскага пав. (цяпер Мастоўскі р-н)), заслужаны настаўнік Беларусі, краязнаўца, музеязнаўца.*

*Нарадзіўся ў сям'і малазямельнага селяніна, які ў сярэдзіне 1920-х езьдзіў на працу ў Бразылію, а па вяртаньні на заробленыя грошы пабудаваў дом у в. Ляткі і адчыніў сваю краму. Б. амаль усё жыцьцё пражыў у роднай вёсцы, якая з часам зьлілася з больш вялікімі Гудзевічамі. Тут атрымаў і пачатковую адукацыю. Да нямецкай акупацыі скончыў 5 клясаў Гудзевіцкай няпоўнай сярэдняй школы. У часе вайны вучыўся пад кіраўніцтвам роднай сястры Веры. “У 1943 годзе, - успамінаў Б., - на нашу і іншыя хаты напалі бандыты, якія пасьля называлі сябе партызанамі, з мэтай рабунку. Тата хаты не адчыняў і выбухам гранаты быў забіты... Давялося гаспадарку браць на свае плечы”.*

*У кастрычніку 1944 Б. пачаў вучыцца ў восьмай клясе расейскае школы № 1 Ваўкавыска, якую скончыў у 1947. “Тады ні ў Ваўкавыскім, ні ў Мастоўскім, ні ў Сьвіслацкім, ні ў Бераставіцкім р-нах не было беларускае школы, якая мела б восьмую клясу”.*

*Няўдалыя спробы паступіць у Менскі мэдычны інстытут вымусілі Б. часова адмовіцца ад плянаў пра вышэйшую адукацыю і ўладкавацца ў 1948 на працу ў якасьці настаўніка другіх і чацьвёртых клясаў у Гудзевіцкай школе. З 1949 Б. распачаў завочнае навучаньне на беларускім аддзяленьні Гарадзенскага пэдагагічнага інстытуту. “Я заўсёды любіў матэматыку, - узгадваў Б., - і хацеў стаць матэматыкам, але лічыў, што найпершы абавязак кожнага чалавека, а тым больш настаўніка, добра ведаць родную мову”.*

*Яшчэ ў 1948 уласнаручна вырабіў улёткі кароткага зьместу (напрыклад, з заклікам “Змагайцеся за незалежную Беларусь!”) і ўпершыню раскідаў іх зь цягніка па шляху ў Менск; раскідваў іх і ў Менску. У 1949 здолеў здабыць ужо шрыфт і выдрукаваў улётку антысавецкага зьместу, якую распаўсюджваў разам зь сябрамі ў Горадні. Б. цудам удалося пазьбегнуць арышту, калі пры наклейваньні ўлёткі на будынак міліцыі іх заўважылі. Пасьля гэтага выпадку ў Горадні пачаліся арышты, у прыватнасьці, ва ўнівэрсытэце. Б. узгадвае: “Я прыйшоў да высновы, што нельга гэтага рабіць, бо церпяць невінаватыя людзі”.*

*З часоў навучаньня Б. успамінаў: “Найбольшае ўражаньне на мяне зрабіў выкладчык беларускай літаратуры Браніслаў Ржэўскі, які мужна нёс патрыятычнае слова сярод крыжоў па задушанай мове, культуры, гісторыі Беларусі. Патрыёта Ржэўскага за беларускі патрыятызм у час праўленьня Хрушчова засудзілі на сем гадоў зьняволеньня. Тады я зразумеў, што палітыка забойства беларускай мовы - гэта палітыка партыі”.*

*Падчас вучобы Б. працаваў у розных школах: 1953-1954 – настаўнік пачатковых клясаў у Струзе, 1954-1955 - выкладчык фізыкі і матэматыкі ў Тупічанскай сямігодцы, 1955-1959 - выкладчык беларускай, нямецкай моваў у Радзявіцкай сямігодцы. Па заканчэньні інстытута ў 1958 уладкаваўся выкладчыкам беларускае мовы і літаратуры ў Гудзевіцкай сярэдняй школе.*

*Праца з вучнямі і прага вывучэньня беларускай гісторыі, мовы, культуры захапіла Б. У 1965 ён наладжвае ліставаньне вучняў зь вядомымі беларускімі пісьменьнікамі, арганізоўвае школьны кабінэт беларускай літаратуры. Вучні захапіліся літаратурнай і дасьледніцкай дзейнасьцю, іх працы пачалі друкавацца ў беларускіх газэтах і часопісах.*

*У 1965 зарганізаваў акцыю лістоў слухачоў Курсаў удасканаленьня настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры (у Менску) на адрас ЦК КПБ з выкладаньнем праблемаў статуса беларускай мовы. Загітаваў на гэтую акцыю Арсень Ліс. Акцыя выклікала незадаволенасьць уладаў. Надалей настаўніцкая дзейнасьць Б. знаходзілася пад пастаянным кантролем.*

*У 1966 Б. разам з вучнямі выдаў першы нумар машынапіснага літаратурна-краязнаўчага альманаху “Праменьчык”. Выданьне выходзіла раз на два гады. Усяго да канца 1980-х выйшла 14 нумароў, па 4 асобнікі кожны.*

*У 1968 на базе кабінэта беларускай мовы і літаратуры быў адчынены літаратурна-краязнаўчы музэй, які складаўся зь літаратурнага, этнаграфічнага аддзелаў, аддзела гісторыі Гудзевіцкай школы, а таксама “небясьпечных” аддзелаў гісторыі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і КПЗБ.*

*За актыўную дзейнасьць па зьбіраньні нацыянальнай спадчыны і распаўсюджаньні беларускай мовы Б. неаднойчы адчуваў ціск з боку кіраўніцтва мясцовых аддзелаў адукацыі, а таксама КГБ. Супрацоўнікі апошняга нават папярэджвалі Б. яшчэ ў 1969: “Белорусский язык должен исчезнуть, а вы нам мешаете. Изменяйте своё отношение к этому языку, пропагандируйте русский”. Аднак, нягледзячы на перашкоды, музэй працягваў існаваць і нават пашыраўся.*

*З 1990 Гудзевіцкі літаратурна-этнаграфічны музэй мае статус дзяржаўнага і налічвае больш за 12 тысяч экспанатаў, сабраных Б. разам з вучнямі. Таленавіты настаўнік, ён распрацаваў адмысловую мэтодыку далучэньня вучняў да літаратурна-краязнаўчага пошуку, музэйнай справы і праз гэта да каштоўнасьцяў беларускай гісторыі і культуры.*

***З даведніка “Дэмакратычная апазыцыя Беларусі (1956-1991)”***